*как присутствующие с ожесточенной поспешностью кололи лед; как, попирая высокие интересы ихтиологии и отталкивая друг друга локтями, они отбивали куски тысячелетнего мяса, волокли его к костру, оттаивали и насыщались* (53, 7–8).

Безыменны шукальнік золата ў Дж. Лондана гатовы грызці не толькі косткі аленя, але і нават косці былога сябрука Біла, якога разадралі шэрыя драпежнікі. У Кузьмы Чорнага чытаем, што зубы галоднага гатовыя раструшчыць камень.

Амаль фантастычную сцэну стварае ён ў рамане “Млечны шлях”. Апісанне ў зачыне месца дзеяння практычна пазбаўлена часава-прасторавых прывязак да канкрэтных рэаляў. Складваецца ўражанне, што мы не ведаем, у які час і дзе адбываецца дзеянне. Ды гэта і не істотна для філасофскай задумы твора. Па сутнасці, перад намі часы дапатопныя, дагістарычныя. Месца дзеяння – уся зямля. І не так істотна, на каго палююць людзі: на бугая ці на мамантa. Нас не цікавіць, у што яны апрануты, якую маюць зброю, бо перад імі стаіць адзіная задача, што трывожыла чалавецтва на працягу ўсёй так званай цывілізацыі. Ды і знешне яны больш падобны на далёкіх дзікуноў, чым на людзей ХХ стагоддзя. Неахайныя, у лахманах, з бегаючымі вачыма, яны знаходзіліся ў стане апатыі, абсалютнай абыякавасці і толькі рык быка абуджае іх. Рыканне жывёліны набывае роўназначнасць радаснай вестцы, якая нясе спадзяванне на доўгачаканы ратунак, вочы ажылі, а затым засвяціліся надзеяй і чаканнем, рысы твару набылі рухавасць.

У кампаніі некалькіх чалавек, якія па волі лёсу становяцца паляўнічымі, як іх дагістарычныя продкі, аб’яднальным фактарам становіцца голад. Кожны з іх кідае па фразе, дзе падкрэслівае, што памірае з голаду, бо ўжо некалькі дзён зусім не еў. Яны дзівяцца таму, што яшчэ жывыя, хаця холад абыякавасці пачынае дамінаваць над імі. Аднак нечаканая надзея дае спадзяванне на лепшы зыход. Усе пускаюцца ў пагоню за зверам, у якога ператварылася мірная свойская жывёліна. У змрочнай свядомасці абуджаюцца спрадвечныя інстынкты: праследаванне няспыннае, каб ахвяра стамілася і змаглася, захоп з флангаў, загон у агароджанае месца і само забойства, калі ўдар фінкі трапляе проста ў горла магутнай істоце, ад якога яна амаль адразу канае.

Уся пагоня адбываецца пад знакам голаду, які не дае ні хвіліны адпачынку сваім ахвярам: адзін з іх падчас пагоні падымае

з-пад ног нейкі высахлы корань і пачынае яго жаваць, другі рвануў з прымерзлай зямлі кусцік счарнелай травы і сціснуў яе зубамі. Гэтая пагоня – сімвал адвечных марных спадзяванняў, што рухаюць чалавецтва, якое яшчэ ой як блізка да жывёльнага свету.

Наша зямлячка Альфрэда Старша-Манішэўская ў кнізе “Where the devil says goodnight (“Дзе д’ябал кажа “Добрай ночы”), напісанай пасля ссылкі на Поўнач, згадвае, што *голад прымусіў яе есці суп з рыбных вачэй, сабачае мяса і жэле са скураных рамянёў*. Саслабелы герой твора Янкі Маўра валачэ пінгвіна, адрэзвае яму галаву і дае ўсім напіцца крыві.

Як гэта ўсё далёка ад славутай тырады Сабакевіча: *Мне лягушку хоць сахаром облепи, не возьму ее в рот, и устрицу тоже не возьму: я знаю, на что устрица похожа.* Чамусьці гэтая істота становіцца своеасаблівым сімвалам, нібыта той рабчык. Успомнім ахматаўскае, узнёслае і велічнае: *На блюде устрицы во льду.* Бо і панскі жывот прымае ўсё: М. Гарэцкі апавядае гісторыю, як паны з’елі ката, якога з безвыходнасці кухар стушкаваў замест зайца. І былі вельмі і вельмі задаволеныя. А ніжэй класік падкрэслівае псіхалогію галоднага чалавека: *Калі маюць што з’есці, дык з’ядуць у вёсцы з брудам і пылам. Абальюць стол, выпацкаюць грудзі і вымасляць пальцы, быццам ... аб калёсную память. З’ядуць дар натуры так, як застанецца ён проста з уроды: з зямлёю, з шалупою* (55, 83). Паслухаем прымудрага Саламона ў перакладзе Скарыны: *Душа сытая топтати будеть сотъ меду, душа же голодная и горкая за сладкое приметь.* Тут не да прыгажосці хоць з этычнага, хоць з эстэтычнага боку. Маленькі герой апавядання В. Цендракова са слязьмі на вачах глядзіць, як жанчына, якая разбіла слоік з малаком, укленчвае, нібы перад магілай дочкі, і, плачучы, есць малако. Праўда, яна чэрпала яго з ямкі з-пад капыта *аккуратно, без жадности, воспитанно*. Калі прыбышы з рамана К. Чорнага “Млечны шлях” закладаюць толькі што парэзанае мяса ў чыгуны і заліваюць яго вадою, то ніхто нават і не падумаў мыць ці хоць спаласнуць ад крыві ці бруду. А яно перад тым валялася на падлозе, а яшчэ раней – на зямлі. Тут няма той ташнаты, што ўзнікае ў арыстакратаў, якія пакуль яшчэ знаходзяцца ў больш-менш спрыяльных умовах: *В тазу для омовения обрядного Не стану мясо варить в угоду голоду* (64, 419). Згадаем аднайменныя творы французскіх

класікаў. Гэта толькі герой Глобуса бачыць, што *ў гандлярkі шашлыкамі тоўстыя лыткі ў рагах гразі* (56, 66). *Аппетит*, – сцвярджаюць Cannon і Washbarn – *может существовать отдельно от голода. Например, когда мы едим только вкусные деликатесы с целью удовлетворения нашего вкуса*. Голад можа існаваць асобна ад апетыту, таму чалавек вымушаны есці не толькі нясмачную яду, але і нават ташнатворную.

Згадаем багабойную місіс Саўербэры, шчодрасць якой у адносінах да Олівера Твіста *выражалась в том, что она, не скупясь, наделяла его отвратительными объедками, которые никто другой не стал бы есть* (57, 54). Гучыць амаль як рэпліка з кінафільма “Аднойчы ў Амерыцы”: *Эту гадость не может есть даже еврей. И горчица не поможет*. Суседзі па сталу героя аповесці пра *гідкасьці* “Млосьці” А. Глобуса – пралетарыі. Іх не навучылі хваліць тое, што ясі. Вось чаму яны ўсклікаюць: – *Смак дзіўны! – А ў мяне адны жылы*.

Героі апавядання П. Васючэнкі “Гульня ў спортлато” харчаваліся надзвычай далікатнымі рэчамі, пераважна каровінымі цыцкамі, капытамі й косткамі: *Аднойчы з’елі кактус са смятанай і нічога, не ўмерлі. Таму і ныркі яны зварылі не памыўшы, не вымачыўшы, не зліўшы першую ваду, не сабраўшы шумавіння. А калі засмярдзела, то дадалі перцу, солі і з’елі* (28, 34).

Падарожныя з рамана “Млечны шлях” гатовы есці ля дамавіны з маленькай дзяўчынай. І толькі выкрык аднаго з іх прымушае галодных адумацца і вынесці ў сені чыгуны з вараным мясам. З якой удзячнасцю паглядзеў на яго той, што ўвесь гэты час стаяў над нябожчыцай. Але толькі самы старэйшы з галодных прыхадняў зразумеў гэты позірк. (Хаця трэба згадаць, што героі славутага фільма “Скромное обаяние буржуазии” амаль згаджаюцца вячэраць у рэстаране, дзе аплакваюць толькі што памёршага гаспадара).

А наогул нікога не бянтэжаць учынкі герояў, змучаных умовамі бытавання: *Увайшоўшы ў хату, Павел запаліў лямпу і дастаў з гарачай яшчэ печы гаршчок са стравай, якую зварыў сабе раніцай на цэлы дзень. З яго мокрай світкі струменьчыкам сцякала вада. Не скідаючы світкі, ён сеў на лаве і пачаў чэрпаць драўлянай лыжкай з гаршка”* (58, 327). Бо мы ўжо маем у менталітэце класічна-спрадвечнае *разам жывець і есць са свінкай,*

*з канём разам п'ець ваду* (59, 39). Згадваецца з Марыенгофа – *в подворотне большие старые сварливые вороны раздирают дохлую кошку.Они жрут вонючее мясо с жадностью и стервенением голодных людей.*

Сакрат Яновіч у XX стагоддзі пісаў: *У бясхлебнай айчыне няма патрыятызму. Бедныя знікаюць без следу. У галодніка не бывае гонару, хоць Бог чалавекападобны. З'ядаюць басоту не ідэі, а голад і холад*. В. Быкаў пісаў аб ментальных зменах у свядомасці народа ў *выніку савецкай дрэсіроўкі голадам, вынішчэннем і страхам.*

Голад можа штурхнуць на самыя несамавітыя ўчынкі. *Смачна ядуць, чэрці! – думаў часам Міколка, збіраючы сваю калекцыю.* У апошнюю ўваходзілі паперкі ад цукерак, малюнкі на розных бутэльках: *Самі цукеркі жаруць, салодкую гарэлку п'юць, а мне толькі паперкі і пустыя бутэлькі. Вось бы ўзяў бацька ды звярнуў цягнік пад адхон* (60, 11). Хлопчык не на жарты сярдуе на людзей, якія не разумелі смаку ў "зайцавым хлебе"і жылі на ўсім гатовым. П. Панчанка не менш катэгарычны:

Падмывала ўзяць у рукі камень,
Грымнуць па вітрыне пышнай той
З маслам, з залатымі ярлыкамі,
З каўбасой і белаю мукой.

*Мир сыт – поэт голоден. Мир не хочет поделиться с поэтом частицей своей сытости – мир будет разрушен. Отсюда: каков мир – таков и поэт. Поэт может отказаться от этого мира. Более того – обязан отказаться. И отказался,* – так тлумачаць суіцыд паэткі. Але М. Цвятаева пратэстуе пасіўна: знішчае не свет, а сябе. А вось герой згаданага твора С. Пясецкага за расчаўленую булачку гатовы забіць чалавека: *Колькі разоў на фронце страляў па людзях, якія не зрабілі мне ніякай крыўды. А гэты, гэты…* Успомнім селяніна з балады Янкі Купалы "Рунь", які забіў бацьку, каб на рот паменшала ў хаце. Або трагедыю на плыце "Мядузы", увасобленую ў мастацтве пэндзля і паўтораную словам. Злосць на ўсё апаноўвае галоднага: герой Дж. Лондана глядзіць з нянавісцю на курапатку, якую ён не можа схапіць. Безыменная гераіня апавядання І. Сідарука "Пяць хлябоў Дабравесця" забівае мужа, каб ягонае сэрца зварыць галодным дзецям,

пакуты якіх яна ўжо не можа бачыць. А самай маленькай дачушцы засталося жыць толькі некалькі гадзін, калі яе не пакарміць тэрмінова. Да гэтага ў літаратуры былі толькі апавяданні пра тое, як граф корміць каханую сэрцам любімага сокала, ці каханка падманам прымушаюць пакаштаваць цела адзінай.

Калі чалавека ахоплівае падобны голад, то ён мала чым адрозніваецца ад жывёлы. *Крестьяне, если не считать свадебных гуляний, едят как свиньи (Джарололло Чирелли)*. А вось наш прыклад: *Траянцы ўзяліс за ядзенне, як з поля панскага харты*. Так апісвалася баляванне ў кнізе XIX стагоддзя. Нават багі не вылучаюцца на гэтым фоне, бо паселі ў круг стала, нібы тыя тараканы. І ніхто не мае права іх асуджаць.

Вось як вяртаецца з працы гераіня “Вёскі”: *Не скідаючы паліто, хусткі, прайшла да стала, бухнула на падлогу сумку з хлебам, адкрыла тумбачку, убачыла бутэрброды, узяла сасіску, з’ела стоячы*. Адзін з антычных герояў еў седзячы: ён стаў весці суровы лад жыцця (бо ўсе сябры піравалі лежачы). На Палессі з’едліва гавораць: свіння есць стоячы, а чалавек – седзячы.

Затым, праўда, героі А. Федарэнкі балююць: *Маці выставіла слоік гуркоў, слоік памідораў, слоік белых марынаваных грыбоў, міску квашанай капусты, падсмажыла мяса з яечняю* (61,10). Падобнага ніколі не зразумеюць неафіты ці эстэты ад кулінарыі, пра што яшчэ раз нагадвае А.Салжэніцын: *Как рассказать им, что они никогда еще в жизни не знали настоящего голода, голода многолетнего, ломающего волю, и что нельзя бороться со страстным, охватывающим тебя желанием продлить возможно дольше процесс еды: в бараке с кружкой горячей, безвкусной снеговой «топленой» воды доесть, дососать свою пайку хлеба в величайшем блаженстве.*

*Но не все новички презрительно качали головой и отходили в сторону* (62, 116).

Асуджаць падобнае могуць толькі тыя, хто зведаў сам, хто пабываў у падобных варунках. Бо чым кіруюцца зняможаныя людзі з твора К. Чорнага? *Ён хапіў чыгун і паімчаў у сенцы. Шпарка ўсе пайшлі за ім. той з размаху паставіў чыгун на зямлю, выхапіў кавалак мяса і, абдзьмухваючы яго, пачаў ірваць зубамі. Здавалася, што калі ён будзе чакаць, пакуль мяса астыне, то гэта будзе каштаваць яму сканання. Але і не толькі ён. Ужо ўсе*

*падкідалі на руках гарачыя кавалкі, кусалі як толькі маглі і елі, елі. Пасля тоўсты прынёс другі чыгун. Два чыгуны мяса яны з'елі не больш як за дзесяць хвілін і адчулі, што не пад'елі як мае быць* (50, 183).

Ад пакут цела знікае ўсялякая культура (зноў згадаем Ніцшэ з ягоным прыярытэтам фізіялогіі над маральнасцю) і чалавек становіцца падобным да скаціны, хаця недзе ў глыбіні душы чалавечае застаецца, як у рамане К. Чорнага: *Але нейкая сіла, можа нават мацнейшая за голад, стрымала іх ад якіх бы там ні было пошукаў способу задушыць да канца прагу да яды. Усе, як згаварыўшыся, выйшлі на ганак і сталі самі не свае. Вельмі можа быць, што цяпер ім усім лепш бы было разысціся хто куды і век больш не сыходзіцца разам* (50, 185).

Ніякай маральнасці не можа быць у грамадстве, дзе кіруе голад, які схіляе на дробныя махлярствы: *Потым Хаменка прыдумаў яшчэ адну… штуку, заўсміхаўся ад радасці й пасунуўся ў студэнцкую харчэўню. Там ён узяў поліўку, нішчымную бульбу (эканоміў), паўшклянкі смятаны, і ў той смятане патапіў два кавалкі масла. Ён не раз ужо краў у харчэўні масла, гэты раз атрымалася так, што з харчэўні Хаменка выйшаў заспакоены і нават шчаслівы*. Гэтая ж пачвара штурхае і на куды большыя злачынствы: *Дзіця-дзеўчатко, пекная, як краска свежая, як воблік зямліцы ў час веснавога сонцаўсходу, – таргуе целам сваім, бо голад рассеўся ў хаце бацькоў старых, няўздольных, брат і сястрыца плачуць, просячы хлеба… Глянь, як неспакойна шукае купца, – можа, бацькі такіх самых дачок-нялетак… Повен славы і чэсці старац купляе ў цябе, Голадзе, чэсць дзявочу… Нялеткаў плач у вушах ёй звініць: "Хлеба! Ха, ха! Хлеба!" Чуеш, Голадзе, хлеба просяць, хлеба! Так, ім будзе хлеб, але з слёз горкіх, з стыду і ганьбы… Няхай маці красці пойдзе, бацька зап'ецца і знамя людское сатрэ з аблічча свайго, а дзіця-дзеўчатко згіне ад благой хваробы, валяючыся ў заразнай бальніцы…* (9, 98). Голад становіцца лёсам Ганулькі, чарговай Соні Мармеладавай з апавядання Ядзвігіна Ш. "Зарабляюць". Яе жыццё паказана вачыма маленькага брацікa Адама. Наогул, калі пісьменнікі жадаюць узмацніць трагедыю і абсурд жыцця, то паказваюць яго праз прызму ўспрымання дзіцяці, якое адыгрывае ролю павелічальнага шкла. Невыпадкова Дж. Свіфт у памфлеце "Сціплая прапанова" вырашыў,

што галодных дзяцей трэба прадаваць багацеям на мяса, а са скуры рабіць пальчаткі. Зм. Бядуля згадваў, што падобнае было ў нашай гісторыі: *Рэзалі дзетак і мяса худое глыталі.*

Самазабойства маці, якая не магла пракарміць няшчасных дзетак, вымушаных, нібы тыя божыя птушачкі, галоднымі класціся спаць у халодны кут, пастаяннае недаяданне ў юнацтве, калі толькі дзякуючы старэнькай пані ім тое-сёе перападзе з яды, штурхае дзяўчыну да гандлю сваім целам. Яна пайшла б следам за маці і павесілася б, але шкадуе брацікa і ідзе з ім на службу, дзе дадуць усё, а самае галоўнае, есці колькі захочаш. Беларускі варыянт класічнага *гробик ребёнку и ужин отцу*, што трагічна абыграў М. Някрасаў. Таму не дзіўна, што ў рамане Дж. Стэйнбека “Гронкі гневу” маладая Роза, што нарадзіла мёртвае дзіця, прапануе свае грудзі, напоўненыя малаком, незнаёмаму чалавеку, які памірае з голаду. І ўсе бласлаўляюць гэты ўчынак. Як некалі высокі суд, што апраўдаў маладую рымлянку Перо, якая карміла ўласным малаком асуджанага на галодную смерць бацьку Кімона. Пра гэта прыгожа сказаў сваім палатном “Бацькалюбая рымлянка” Рубенс.

У тых выпадках, калі дзіця збіраюцца падмануць, то лепш за ўсё зрабіць гэта ядою:

*Калі маці падала на стол аладкі і нават – дзіва! – скавародку з салам, Валодзька амаль не аддаў гэтаму ўвагі, па-ранейшаму чакаў.*

*– Я табе кулеш у чыгунку ў печцы паставіла. Смачны, з малаком… А ў прыпечку яечка вазьмі!.. Можаш узяць.* Хітры дзед Астап падманвае жэўжыка-ўнука абяцанкамі пра абаранкі з макам і хапае таго за пейсы.

Сусвет галоднага абмежаваны, таму ён ніколі не будзе любавацца прыгажосцю лесу, рэчкі, лугу, якія ўспрымаюцца толькі як крыніцы ежы:

*Але над усім былі клопаты. Спелі ягады. За суніцамі – чарніцы, ад якіх аж чорна было між рослага папаратніку. Нядоўга было чакаць і малін, што густа спелі ў гадзючых зарасніках. Малеча і старыя, каго не бралі рабіць на сенажаць ці ў поле, з дня ў дзень снавалі па лесе з лазовымі каробкамі і кошыкамі. Кожны зручны момант хапаліся з лугу, з поля ў лес і жанкі і мужчыны, працаўнікі – у лесе цяпер была важная праца.*

*Ягады былі не якія там прысмакі, як у другіх, – у Куранях ягадамі карміліся, ягады збіралі, сушылі на продаж, на грошы, на чорны зімовы ці веснавы дзень. Лес быў памочнік полю, скупой, ненадзейнай зямлі.*

Згадаем, што нешта падобнае было характэрна для старажытных германскіх народаў, дзе лес (terra et silva) мералі свіннямі, г. зн. колькі гэтых істот магло на канкрэтнай плошчы пракарміцца, іменна гэтым згаданыя "варвары" адрозніваліся ад рымлян, якія сеялі збожжа і вінаград. Хаця, праўда, у гурманстве сваім яны не спускаліся да травы, але зусім не па тых прычынах, як прадстаўнікі цывілізацыйных народаў: *такая еда как салат, любима итальянскими лакомками, которые отбирают пищу у скотины, поедая сырую зелень.*

Мажліва падобная схільнасць парадзіла анекдот пра студэнта з нашых краёў, які не захацеў вучыцца ў Падуі, а на патрабаванні бацькі растлумачыць прычыну ўцёкаў, адказаў: *усё лета мяне кармілі нейкай травою, дык я зрабіў выснову, што ўзімку пачнуць карміць сенам, чаго мне не вынесці, і вырашыў уцячы* (63, 37).

Падобныя запісы можна сустрэць у М. Гарэцкага, Якуба Коласа, Зм. Бядулі. Пра якую культуру можна гаварыць, калі адна задача стаіць перад людзьмі – насыціць цела, выжыць. Згадаем абед у І. Мележа, дзе проста выкідаюць прусака з поліўкі, не бачачы ў тым аніякай праблемы.

У пагоні за харчам знікае неабходнасць у духоўным жыцці. Бард В. Шалкевіч сцвярджае: *Была нейкая паэтычна-песенная фантазія, якая малявала чытачам чорна-белыя ідэалізаваныя малюначкі..., а і гэтага тут рэальна ніколі не было – у асноўным было зусім іншае жыццё, жорсткае і несправядлівае ва ўсёй сваёй штодзённасці, была аднастайная, ніколі не сканчаючаяся пара, цяжкая неверагодна, без механізмаў і трактатаў, з канём і возам, і, як выратаванне ад яе, была ў канцы тыдня субота, а потым нарэшце і нядзеля, калі можна было ляжаць, колькі вылежыш, і не браць да галавы нічога, таму што святы дзень маем абавязак шанаваць, імша а трынаццатай гадзіне ў касцёле ці царкве, потым абед і пасляабедзенны сон на засланым ложку за шафаю, не распранаючыся, а заўтра – ізноў ПАНЯДЗЕЛАК!!!*

Л. Талстой, разважаючы над спецыфікай культуры у класавым грамадстве, сцвярджае: *Для искусства нужно довольство, нужен*

*достаток. Культура питается соками хозяйства, и нужен материальный избыток, чтобы культура росла, усложнялась и утончалась.*

Па сутнасці, ступень развіцця культуры прама прапарцыянальна залежыць ад наяўнасці харчу і доступу да яго: *Роль варьирования количества и качества пищи, усвояемой организмом, похожа на роль смены министров в ведомствах: каждая смена влечет за собой перемену состава чиновников, увольнение одних должностных лиц и назначение новых; Повышение одних и понижение других, в результате чего менялся состав чиновников и служащих ведомства. Смена сытости и голодания (в результате варьирования количества и качества пищи) производит такую же трансформацию в «составе» элементов (идей, убеждений, желаний, etc.) нашего «министерства сознания». Кроме того, смена министров обычно влечет за собой не только перемену состава и перегруппировку служащих ведомства, но и изменение политики и механизма работы всего министерства улучшение или ухудшение его организации, ускорение или замедление процесса производства дел, выдвижение на первый план одних дел и положение под сукно других и т. д.* (12, 123–124).

У гэтым прычына змену настрояў у людзей, падвержаных пастаянным выпрабаванням. У аповесці “Вяртанне Веры” У. Някляева сабаку кормяць як ваўка – раз ці два на тыдзень. Каб люцеў з голаду.

*То же самое происходит и со всем механизмом душевной жизни при варьировании сытости и голодания. Машина душевной жизни в том и другом случае работает по-разному. Изменения, происходящие в содержимом нашего духовного багажа, мы рассмотрим ниже* (12, 124). Па сутнасці, пры галаданні адбываецца грунтоўная дэфармацыя механізму ўсяго нашага душэўнага жыцця. Людзі становяцца зусім іншымі, непадобнымі нават на саміх сябе і таго абстрактнага чалавека, якога дала нам сусветная культура ў якасці ўзору і ідэала.

У эпоху навуковых рэвалюцый вывады вучоных творча выкарыстоўваюцца пісьменнікамі. Ч. Дарвін даказаў залежнасць колеру канарэйкі ад корму. Гэта ўласціва і вышэйшым стварэнням, даказана, напрыклад, што ад харчу можа мяняцца колер вачэй.

*Это дает второе основание допустить, что указанная связь существует. Есть, наконец, кое-какие факты, и прямо говорящие об этом. Было замечено, что народы, особенно первобытные, питающиеся главным образом мясом, в большинстве случаев обладают хищным, энергичным и агрессивным характером. Piv-on ставит в связь с мясным питанием большую часть убийств в Англии. И наоборот, народы и группы вегетарианские чаще всего являлись и являются мирными, не хищными группами.*

Многія сцвярджаюць, што мясная дыета робіць людзей драпежнымі. Шукаючы прычыну неадэкватных, з пункту гледжання царкоўнага прыходу, учынкаў Олівера Твіста, Чарльз Дзікенс піша: *– Это не сумасшествие, миссис, – ответил мистер Бамбл после недолгого глубокого раздумья. – Это мясо. – Что такое? – воскликнула миссис Сауерберри. – Мясо, миссис, мясо! – повторил Бамбл сурово и выразительно. – Вы его закормили, миссис. Вы пробудили в нем противоестественную душу и противоестественный дух, которые не подобает иметь человеку в его положении. Это скажут вам, миссис Сауерберри, и члены приходского совета, а они – практические философы. Что делать беднякам с душой или духом? Хватит с них того, что мы оставляем им тело. Если бы вы, миссис, держали мальчика на каше, этого никогда бы не случилось* (57, 53–54). Падобныя асацыяцыі добра ілюструюць погляды маралістаў пазамінулага стагоддзя: *Нужно сознаться, что во всех этих излияниях звучит не одна праздная сентиментальность*. Лічыцца, што з дапамогай падобных высноў можна растлумачыць многія адметнасці менталітэту народаў. Так, частковым пацвярджэннем падобнай тэорыі *служит и факт покорности русского народа вообще, и за эти годы в частности. По сравнению с большинством европейских народов, особенно с англосаксами, и принимая во внимание наш климат, русский крестьянин мяса ел и ест меньше. И он же более покорен, чем другие народы. Не связано ли исключительное безволие населения России, его пассивность и покорность с тем, что в последние годы его питание состояло почти исключительно из продуктов растительного происхождения? Если да, то те, кому желательно иметь такой народ, должны держать его на вегетарианской диете, а сами питаться мясом* (12, 124).

Пра гэта шмат пісаў Л. Талстой, калі разважаў, ёсць у краіне голад ці няма, чаму так часта паўтараецца галеча народная і што трэба зрабіць, каб такое ніколі не вярталася. Выкарыстоўваючы дадзеныя статыстыкі, ён падкрэсліваў, што рускія людзі недаядаюць на 30 % таго, што неабходна чалавеку для нармальнага харчавання, вось чаму маладыя хлопцы чарназёмнай паласы апошнія дваццаць гадоў усё менш і менш адпавядаюць патрабаванням добрай выпраўкі для воінскай службы. Гэта нават відаць знешне. Вялікі пісьменнік параўновае селяніна-земляроба *(исхудалый до костей, с нездоровым цветом лица),* і таго ж селяніна, які трапляе ў дворнікі або кучары, дзе добрыя харчы. І прычына таму не голад татальны, як у Індыі ў 1891 годзе, а пастаяннае недаяданне (П. Сарокін называе яго *количественно-качественное относительно-дефицитное голодание*), пры якім людзі жывуць, але жывуць вельмі пагана: рана паміраюць, выроджваюцца, не размнажаюцца. Чалавек не верыць у свае сілы, ён дзейнічае толькі пад уздзеяннем інстынкту самазахоўвання: *Как только в народе нет духа бодрости, уверенности, надежды на все большее и большее улучшение своего состояния, а есть, напротив, осознание тщеты своих усилий, уныние – народ не победит природу, а будет побежден ею* (65, 183).

Прыкмет зніжэння духоўнай моцы вельмі многа. Самы галоўны – амаль абсалютная абыякавасць да духоўнага жыцця, у тым ліку і рэлігіі. *Но физические средства ничтожны без нравственной силы,* – усклікаў Ф. Булгарын. Апісваючы сваіх герояў у рамане “Млечны шлях”, Кузьма Чорны падкрэслівае толькі адну рысу, што панавала над усім – абыякавасць. Пра якую пасіянарнасць можа ісці гаворка, калі на абліччы выразна праступае *Facies Hippocratica* – аблічча смерці. Нежаданне мяняць свае звычкі і становішча, што праяўляецца ў коснасці, адсутнасці памкнення зрабіць нешта кардынальнае, лянота, аднастайная, без натхнення, праца, жаданне забыцца з дапамогай алкаголю і табаку, – вось да чаго вядзе звыродны цар.

*И на каждом детском и взрослом лице, на каждой старческой – давней или едва намечающейся – морщине лежит печать Голода. Голод накладывает руку на все, Голод лезет из этих невообразимых домов, из убогого тряпья, развешенного на заборах и веревках; Голод прячется в подвалах, затыкая щели*

*и окна соломой, опилками, стружками, клочками бумаги; Голод заявляет о себе каждой щепкой, отлетевшей от распиленного полена; Голод глазеет из печных труб, из которых давно уже не поднимается дым, смердит из слежавшегося мусора, в котором тщетно было бы пытаться найти какие-нибудь отбросы. "Голод" — написано на полках булочника, на каждом жалком ломте его скудных запасов мякинного хлеба, и на прилавках колбасных, торгующих изделиями из стервятины, из мяса дохлых собак. Голод щелкает своими иссохшими костями в жаровнях, где жарят каштаны; Голод скрипит на дне каждой оловянной посудины с крошевом из картофельных очистков, сдобренных несколькими каплями прогорклого оливкового масла. Голод здесь у себя дома, и все здесь подчинено ему: узкая кривая улица, грязная и смрадная, и разбегающиеся от нее такие же грязные и смрадные переулки, где ютится голытьба в зловонных отрепьях и колпаках, и все словно глядит исподлобья мрачным, насупленным взглядом, не предвещающим ничего доброго, –* сцвярджаў Ч. Дзікенс.

Ірландскі паэт Дэсмонд Іган (1936 г. н.) у зборніку "Famine" ("Голад", 1997) вяртаецца да праблемы "Вялікага Голаду" (1845–1849) і паказвае, як пад уплывам трагедыі змяніўся навакольны сусвет і ўспрыманне свету ірландцамі. Ён сцвярджае, што "The stink of Famine" да гэтага часу гучыць злавесна, а ягоны пах чуецца паўсюдна: голад з ірландцамі ў кожнай крышынцы хлеба, у ландшафце, раслінах, нават у словах і музыцы.

Голад аказаў вялікі ўплыў на аблічча літаратуры ўвогуле і беларускай літаратуры ў прыватнасці, якой у значнай ступені якраз і не хапала кавалачка мяса, каб сцвердзіцца да канца.

# 2 ГОЛОД ГОЛОДНЫХ И СЫТОСТЬ СЫТЫХ

Трохгадовая дачка Марыны Цвятаевай, Ірынка, памерла з голаду. Неадольны голад у значнай ступені падштурхнуў і самую паэтэсу да самагубства: яе нават не змаглі ўладкаваць мыць посуд у сталоўцы пісьменніцкай суполкі. Прадчуванне будучых трагедый яна метафарычна-дасканала ўвасобіла ў афарыстычна-публіцыстычным вершы "…Если душа родилась крылатой", дзе ўпершыню сфармулявала адвечную праблему, з якой чалавецтва змагаецца з пачатку так званай цывілізацыі:

*Чтó Чингисхан ей и чтó – Орда!*
*Два на миру у меня врага,*
*Два близнеца – неразрывно-слитых:*
*Голод голодных и сытость сытых!* (66, 108)

Трэба адзначыць, што *галодная* паэтэса не толькі стварае *галодныя* вершы, але і спрабуе вызначыць прычыну іх з'яўлення. Падобныя спробы асэнсаваць зыходны тэзіс зямнога бытавання ў мастацкай традыцыі прадпрымаліся не аднойчы. Прычым глыбокі сацыяльны аналіз амаль заўсёды саступаў эмацыйнаму пачатку, які звыкла дамінаваў. Так, Э. Рэмарк у "Чорным абеліску" усклікаў: *Бессмысленная смерть голодающего ужасна.* Ж-П. Сартр у аўтабіяграфічнай аповесці "Словы" піша пра паміраючых ад голаду дзяцей і ўсклікае, што перад абліччам гінучага дзіцяці ягоная "Тошнота" не мае ніякай вартасці. Рэмарк далей вызначыў сутнасць спрэчкі, якая знайшла мастацкае ўвасабленне ў літаратуры, з дапамогай выслоўя: *Голодный грезит о жратве, а сытому так противно*. Крыху раней Л. Талстой эмацыйна сцвярджаў: *Надо написать книгу ЖРАНЬЕ. Валтасаров пир, архиереи, цари, трактиры. Свидания, прощания, юбилеи. Люди думают, что заняты разными важными делами, они заняты только жраньем* (67, 53). Ніхто не цікавіцца, што адбываецца за кулісамі дзейства, як да яго адносяцца. Сыты галоднаму ніколі не спагадае. Спрадвечнае непаразуменне антаганістаў нараджае класічны афарызм, які прыпісваецца Марыі-Антуанеце: *Калі ў іх (беднякоў) няма грошай на хлеб, хай ядуць піражныя*. Яшчэ раней Мітрыдаг паслаў Вярхоўнай жрыцы, якая папрасіла ў яго палову гектэя пшаніцы, перцу. Плутарх

у жыццяапісанні Лісандра і Сулы бясстрасна канстатуе: *И хотя медимн пшеницы стоил тогда в Афинах тысячу драхм, а люди питались девичьей ромашкой, росшей вокруг Акрополя, варили сандалии и лекифы* (посуд для алею, зроблены са скуры – І. Ш.), *Аристион проводил время в ежедневных попойках и пирушках, не тревожась о том, что священная лампада потухла из-за недостатка масла (5, 113).*

Голад, як, дарэчы, і вайну прадказаць вельмі лёгка, бо яны заўсёды існуюць на зямлі. Асабліва ў нашым краі. У 1913 годзе "Новый энциклопедический словарь" у артыкуле "Голод, как социально-экономическое явление" сцвярджаў: *Вплоть до середины XIX века наименее обеспеченными хлебом и наиболее страдавшими от голодовок являются губернии белорусские и литовские. Самые крупные голодовки николаевского царствования 1833, 1845–1846, 1851, 1855 гг. сопровождаются резкой продовольственной нуждой в этом районе, а министр внутренних дел насчитывал для белорусских губерний за три десятка лет 10 голодовок.*

ХХ стагоддзе ў гэтым плане зусім не выключэнне. У 1934 годзе 14 гадовая Ліліяна Лунгіна, вяртаючыся з Германіі, дзе жыла з бацькамі, жахаецца, убачыўшы на падлозе вакзала ў Негарэлым сотні хворых і знясіленых людзей, якія марна спрабавалі ўцячы ад голаду, бо паміралі ад недаядання. Яна просіцца вярнуцца, але не менш спалоханая маці адказвае, што назад дарогі няма. *За вітрынай рай і ежы поўна, Толькі для гасцей з чужых краін,* – такой паўстае краіна равеснікам П. Панчанкі, якія ў гэты час *сёрбалі ў сталоўцы камбінацкай Вегетарыянскую бурду.*

Гісторыя чалавецтва ніколі не змяніцца, яе ўнутраная сутнасць – велічыня пастаянная. Дарэмна В. Г. Караленка, які некалі пісаў, што на кірмашах маскоўскіх в *Смутное время продавали человеческое мясо*, пасля рэвалюцыі з радасцю ўсклікаў, што *теперь этого не будет. Человечество прожило несколько столетий недаром…* Тым болей, што і сам называў галоўных ворагаў людзей – *четыре монстра: голод, эпидемия, война и революция…* (новая інтэрпрэтацыя чатырох вершнікаў Апакаліпсісу). Галодныя пасляваенныя мінчане з рамана У. Карпава "За годам год" маюць адзіны клопат: *А я от у Заходнюю сабралася. Назбірала такіх—сякіх трантаў, мо вымяняю на крупы ці хлеб…* Бо яды

не было нават у закрытых размеркавальніках: *Месяц канчаўся, і трэба было спяшацца затаварыць карткі. Але мяса і тлушчаў не было, атрымаў парашку і баначку салёных фісташкаў. Фісташкі даваліся замест цукру*.

Звычайныя людзі, па сутнасці, марылі аб адным, як і перад вайною. *От я папаеў бы груш*, – мроіць Юрка з рамана К. Чорнага “Зямля”. *Наядаліся толькі ў сне*, – пісала ў 1970 годзе Я. Янішчыц у вершы “Радзіма”, паэтычна адлюстроўваючы долю цэлых пакаленняў. Абед маленькіх дрывасекаў другой паловы мінулага стагоддзя з аповесці А. Федарэнкі “Вёска” мала чым адрозніваецца ад посілку сваіх папярэднікаў пачатку веку з апавядання Зм. Бядулі: *Потым абедалі – разасслалі на тоўстым пні газету, елі мерзлае смачненнае сала, ад успамінаў пра якое і цяпер бягуць слінкі, цыбулю, хлеб*. Амаль тэкстуальна пераклікаецца выснова са шніпаўскім сучасныя назіраннем: *Ядуць рабацягі зжаўцелае сала і піва Няспешліва п’юць*.

Голад і сытасць знайшлі сваё ўвасабленне ў адпаведных літаратурах, што панавалі на тэрыторыі краю. Здарылася так, што беларуская літаратура для многіх – суцэльны плач галоднага героя, які жаліцца нябёсам і людзям на долю. Але поруч з’яўляюцца творы, напісаныя прыкладна ў адзін і той жа час і ў адной і той жа мясцовасці. І ўзнаўляюць яны рай на зямлі. Вось што мы бачым ў энцыклапедыі жыцця XIX ст. паэме “Пан Тадэвуш” А. Міцкевіча, у якім элегантны водар *барбарскага напою* ўзыходзіць над беларускімі гонямі:

*...Пах мокка, гушчыня, як мёд пчаліны,*
*І колер, быццам пацеркі з бурштыну.*
*З якой прыемнасцю бярэш рукамі*
*Той кубачак, запраўлены вяршкамі,*
*І п’еш з прыцмокамі...*

*Зазвычай пані п’юць уранні каву.*
*Таму сабе яны другую страву*
*Абралі: ім слуга па першым ківу*
*Нясе тварог, заліты цёплым півам*
*І зверху прыаздоблены смятанай. (68, 62)*

Кантрастнасць карціны значна ўзмацняе і той факт, што кава, чай, шакалад – элітарныя напоі. Гэта не прадукты харчавання,

а ўзбуждальныя сродкі. Іх выкарыстоўваюць, каб дасягнуць эйфарыі і забыцца пра штодзённыя клопаты, што падкрэсліваў і Ф. Ніцшэ*: Ніякай вячэры, ніякай кавы: кава тлуміць, чай толькі ранкам карысны. Ня многа, але вельмі моцны чай вельмі шкодзіць і робіць хворым на ўвесь дзень, калі ён на адзін градус халаднейшы за патрэбны.* Тут можна ўбачыць пераклічку з выслоўем Чэхава, які гаварыў: ягоны дзядзька памёр ад таго, што замест пятнаццаці кропель Боткіна, як прапісаў урач, выпіў шаснаццаць. Пра шкоду заморскіх напояў пісаў і Бальзак, які дадаў у гэты спіс родную гарэлку ці спірт і тытунь і паказаў паганы ўплыў пералічаных інгрыдыентаў.

Падобнае ўспрыманне было пануючым, невыпадкова В. І. Дунін-Марцінкевіч у вершаванай аповесці “Люцынка, або Шведы на Літве” услаўляў часы, калі пілі сваё пітво, а не кітайскія зёлкі (чай) ці турэцкае зерне (каву) (69, 304).

Але не для ўсіх у гэтым краі пахла так смачна, а выгляд харчу цешыў зрок. Рускі паэт і высокі дзяржаўны чыноўнік у адной асобе, Г. Дзяржавін, бачыць зусім іншае ў долі прадстаўнікоў ніжэйшага сацыяльнага класу: *-дятъ хл-бъ не в-янный, весною колотуху или изъ оржаной муки болтушку; въ ма-, іюн- и іюл- довольствуются, съ небольшою пересыпкою какого-нибудь жита, изрубленными и сваренными травами на подобіе каши; терпя голодъ, такъ бываютъ истощеныы, что съ нуждою шатаются и оттого усп-ховъ въ землед-ліи въ семъ краю быть не можетъ (70, 231).* Гаўрыла Раманавіч ведаў гэтую справу, бо праславіўся не толькі сваімі одамі, але і творамі пра “яствы сахарны царей” – “Приглашение к обеду”, “Разные вина” т. п.

Паэт-сенатар прыходзіць да тых жа высноў, што і граф Талстой пры канцы XIX стагоддзя, калі паказваў, як пастаяннае недаяданне прыводзіць да фізічнай і маральнай дэградацыі рускага селяніна. Падобныя матэрыялы і артэфакты далі мажлівасць некаторым даследчыкам, найперш культуролагам, прыйсці да глабальных вывадаў. Здаўна лічыцца, што ўсе беднякі ядуць аднолькава, а ўсе багацеі – па-рознаму. Менавіта таму, сцвярджаюць вучоныя ў гэтай справе, нацыянальная гастранамічная традыцыя можа ўзнікнуць толькі ў развітога народу, у ягоным культурным, шляхецкім саслоўі. Вядомы даследчык яды Вільям Пахлёбкін у кнізе “Национальные кухни наших народов” якраз

на падставе гэтага, а таксама падзелу народу яшчэ і па канфесійнаму прынцыпу, адмаўляў беларусам у праве на адметную арыгінальную гастранамічную культуру, а існуючыя стравы тлумачыў звычайным запазычаннем у больш прадвінутых суседзяў. Відаць об'едзі з панскага стала трапялі і да бедных беларусаў: *Своеобразие исторических судеб белорусского народа оказало глубокое влияние на формирование и развитие его культуры. Лишенный вплоть до Великой Октябрьской социалистической революции 1917 г. своей национальной государственности, испытавший перекрестное влияние православной, униатской и католической церквей белорусский народ в трудных, сложных и противоречивых условиях вынужден был отстаивать свои национальные особенности и обычаи, в том числе и материальную культуру, к которой относится национальная кухня.*

*В этих условиях белорусская кухня, с одной стороны, продолжала сохранять близость к кухням окружающих белорусов славянских народов – русских, украинцев, поляков, а с другой стороны, – испытала известное влияние кухонь своих неславянских соседей – литовцев и латышей. Кроме того, кулинарное искусство в восточной и западной частях Белоруссии, долгое время изолированных друг от друга, развивалось неодинаково, подвергалось разному влиянию. Все это мешало закреплению уже сложившихся специфических черт белорусской кухни, тормозило разработку национальных кулинарных приемов и отдельных блюд, свойственных только белорусской кухне (71).*

Мы прыводзім словы позняга Пахлёбкіна, бо на пачатку сваёй навуковай кар'еры ён амаль цалкам адмаўляў беларускай нацыянальнай кухні ў праве на існаванне, лічыў яе другаснай у адносінах да суседскіх. Можа яму траплялiся спецыфічныя ўзоры мастацкай ці этнаграфічнай літаратуры па праблеме, альбо ён і падумаць не мог пра адметнасць матэрыяльнай культуры брацкага народу. Аднак працягнем супастаўленні. Ваярская шляхта ў гэтую ж эпоху пачынала свой дзень па-свойску, у поўнай адпаведнасці з традыцыямі :

*Мужчынам іх сняданак быў паданы*
*Ў другім раскладзе: смажанай паўгускі,*
*Язык халодны, скрылікі адгузка,*
*Правэнджанага на ядлоўцы ўдала.*

*Так што, здаецца, усяго ставала*
*Наесціся як стаць і гэтым разам,*
*Тым больш, што пад канец прынеслі зразы. (69, 63)*

Шмат і часта ядуць тыя, хто не знаходзіць наталення ў іншых сферах. Аб тым, што чалавека, які не ведае, чым заняць сябе, цягне да яды, вельмі дакладна расказаў М. Гогаль у "Старасвецкіх памешчыках", героі якіх увесь час нешта перакусваюць. Згадваючы больш далёкіх патрыцыяў, М. Мантэнь падкрэслівае, што *в перерывах между трапезами они закусывали*. Прычым усё служыла гэтаму працэсу, ніштo яму не замінала: *Зимою кушанья подавались им на жаровнях,ставившихся на стол. Они имели и переносные кухни со всеми приспособлениями для приготовления пищи: их употребляли во время путешествия* (72, 318). Як далёкі яны ад народу, якому падобныя клопаты і не сніліся. Згаданы ж Гаўрыла Раманавіч Дзяржавін у 1800 годзе так апісаў стан сялянства ў Віцебскай губерні: *Заходзіў я ў бліжэйшыя ад вялікай дарогі некаторыя ўладальніцкія сяленні і бачыў знянацку ў бедных хацінах сапраўдны воблік жыцця пасялян. Лепшыя з іх ядуць пушны, або напалову з мякінай, хлеб, дастаючы і той пакупкай і пазычкай з дня ў дзень на дзённы харч, а іншыя ўжываюць пятую толькі частку жыта, змешваючы з чатырма часткамі мякіны, іншыя ж і гэтага не маюць, а ядуць варанае шчаўе або хлебчуць, як яны называюць, кісліцу, вараную з вотруб'ямі і жамерын, або самую вадкую кісельную сулу. Ад такой стравы ўсе ўвогуле вялыя, худыя і бледныя, нібы мерцвякі. Параўноўваючы іх з самымі беднымі вялікарускімі сялянамі, я не ўсумніўся б сказаць, што яны знаходзяцца ў самым вартым жалю становішчы і церпяць такі голад, які хутка іх паморыць і якога прытым наўрад ці знойдуцца сродкі ў поўнай меры пазбегнуць, калі меркаваць па тым, што ў іх нідзе, ні ў гумнах, ні ў свірнах, няма ніякага хлеба, а таксама жывёлы і свойскай птушкі (выключаючы толькі самую нязначную колькасць коней і кароў) (9, 154–155).* Прычым ён лічыў вінаватымі ў гэтым многіх, найперш палякаў, якія давялі да такога стану мясцовы люд. Салідарызаваўся з ім і вядомы рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч Ул. Кігн-Дзядлоў, сын славутай фальклярысткі Елізаветы Паўлоўскай, які сцвярджаў: *их* (г. зн. беларусаў – І. Ш.) *так обработали польская культура и польский порядок, от которых*

*они до сих пор отдышаться не могут*. З гэтай высновай палемізаваў Ф. Булгарын, які прыводзіў прыказку *В Польше хлеба больше* і лічыў, што негатыўныя змены ў нашым краі і пачаліся якраз пасля краху Рэчы Паспалітай. Вышэй мы згадвалі, што пра беларусаў XIX ст. пісалі многае, аднак, дзякуй Богу, не так, як пра парыяў Англіі: *Угрюмые животные, самцы и самки, рассеяны по стране, грязны и мертвенно бледные, испаленные солнцем, прикованные к земле, которую они роют перелопачивают с неукротимым упорством, они даже владеют своего рода даром членораздельной речи, и когда выпрямляются, то на них можно заметить человеческое лицо, и они действительно люди. Ночью они возвращаются в свои логова, где они живут на черном хлебе, воде и кореньях.*

Зразумела, што ніхто з апошніх, нават калі мае талент, роўны шэкспіраўскаму, не стане апяваць свой харч надзённы. Толькі пісьменнік са шляхты, накормлены і вольны ад пошукаў яды, можа спяваць оду, ды што там ода, сапраўдны панегірык нацыянальнай страве:

*А ў тым катле тым часам булькаў, чмякаў*
*Славуты б і г а с – першынец прысмакаў.*
*Баюся, што не перадам нікому*
*З гурманаў, а тым болей гарадскому,*
*Які ён смачны, пах які, бо мова*
*Не вынайшла ў сваім багацці слова*
*Для азначэння гэтай нашай стравы… (68, 137)*

З якім захапленнем,замілаванасцю і нават любасцю узнаўляе Адам Міцкевіч працэсператварэння звычайна-будзённай гародніны ў велічна-ўзёслы сімвал. Так і працэс пераходу таннага волава ў высакароднае золата ў тыглі алхіміка не апявалі паэты рамантычнага кірунку:

*Калі ўсур'ёз сказаць, то саладжава*
*Яго й хваліць ці трэба – гэта страва*
*Прыйшлося б нават каралю да густу.*
*А вараць проста: кіслую капусту,*
*Якая у сялян, па іх выслоўі,*
*Найлепшая пажыўнасць у здароўі.*

*Не менш гадзіны з добрым тлустым мясам*
*У печы тушаць ці над жарам часам*
*У сагане, пакуль з вяршка да нізу*
*Ўсю масу сок і тлустасць не праніжа.*
*Вось і гатоў ён, бігас наш, – зірніце,*
*А пах які – язык не праглыніце!  (68, 137)*

Як гэтае апісанне дысгарманіруе з простай канстатацыяй яды з капусты, як адной з асноўных страў у беларускай мастацкай традыцыі. Максім Танк, народны паэт Беларусі, які чытаў класіка на мове арыгіналу, пакінуў зусім прыземленыя згадкі ў параўнанні з вялікім рамантыкам: *У чалесніках, на патэльні скварылася некалькі рыжых скварак – падрыхтаваная для капусты заправа* (15, 30). Вось і ўвесь працэс. Ды што там капуста. Зусім інакш ўспрымаліся нават святочныя застоллі ў леснічоўцы іншых Міцкевічаў з зямлі беларускай, у якіх бліны са шкваркай лічыліся дэлікатэсам. Якуб Колас імкнуўся знайсці паэзію і ва ўзнаўленні сціплай беларускай яды. Аднак здарылася так, што  тлумачэнне падобнай з'явы велемудрымі даследчыкамі збоку вяло да вялікай філасофіі: *Особенно сильно препятствовали складыванию единой национальной кухни сословные различия, тесно переплетавшиеся с национальными и религиозными различиями. В то время как крестьянство было белорусским и православным, шляхта – белорусской, но преимущественно униатской, привилегированное дворянство в национальном отношении являлось польским, литовским, а в религиозном – исключительно католическим. Отсюда, естественно, возникала разница не только между кухней сельского, местечкового и городского населения, но и различия между «магнатской», «господской», «панской», «шляхетской» кухнями и кухней простого люда. Кухня господствующих классов в Белоруссии и тянущейся за ними шляхты в сильнейшей степени складывалась под влиянием великопольской, а отчасти и немецкой кухни (71 ).*

Ці не таму ў мастацкай традыцыі, пануючай на тэрыторыі краю, з'яўляліся ўзноўленыя харчовыя забаўкі, якія нават не мроіліся многім. Так, апісанне дэсерту, што падаваўся панам, амаль літаральна нагадвае ўзнаўленне доміка ведзьмы з казкі братоў Грым “Гензэль і Грэтэль”,  сцены якога складзены з хлеба, страха – з пернікаў, а вокны – з цукру:

*З паддону жалабкі яго па беражочкі*
*Бялелі пенкамі вяршкоў; вышэй драбочкі*
*Наколатага цукру складзены ў палоскі.*
*Зірнеш – зазімак тут за хаткай нейкай вёскі:*
*Снягі перад гумном і пенак снег ля саду;*
*Далей – зялёны бор, там грудкі мармеладу.*
*Як быццам хтосьці з цукру, з малака пейзажы*
*Зімовыя стварыў. Хто ў закід слоўка скажа,*
*Той саграшыць! А вунь пры доміку ля бору*
*Гурток людзей, нібы балванчыкі з фарфору.*
*У кунтушах, а частка ў світках, як і ў вёсках,*
*Ну, рыхтык скамарохі тыя на падмостках;*
*У кожнага свой жэст: хто меч, хто кій трымае,*
*Адно што голасу ім, цацкам, не хапае. (68, 347–348)*

Падобныя апісанні рыбак і птушак з цеста, размаляваных і прыхарошаных, прадстаўлены ў польскамоўных творах В. Дуніна-Марцінкевіча. Па сутнасці, у параўнанні з сялянствам, шляхта жыве ў казачнай краіне. Невыпадкова яна мела абед як велічны рытуал: *Пан рэферэндарый абедаў а другой гадзіне, вячэраў а дзевятай. Штодзённы абед складаўся з супу і шасці блюд, вячэра з трох. Нічога больш не дадавалася, хоць бы і з'ехаліся найпершыя ў краі саноўнікі. Яда была здаровая і багатая, бо з велізарных лясоў, што належалі да Свіслачы і даходзілі да тысячы валок, дастаўлялася, у адпаведнасці з парою года, розных гатункаў дзічына. Штомесяц на кухні забівалі аднаго лася, дзве сарны, дзве лані-даніэлі са звярынца і мноства рознай птушкі. У сувязі з тым, што сяляне мелі дараваныя ім участкі ці збожжавыя ссыпкі, грашовыя чыншы, а таксама розныя даніны грыбамі, арэхамі і мёдам, кожная хата абавязана была даваць у двор па два адкормленыя каплуны ў год. Там, дзе колькасць хат даходзіла да сямісот, у кладоўках нічога не бракавала. У посныя дні з шматлікіх і добра дагледжаных сажалак на кожнае жаданне дастаўлялі паддастаткам рыбы (74, 3).*

Хаця дзеля задавальнення сваіх прыхамацей чалавек гатовы прыняць што хочаш: *Разум – подлец, оправдает что угодно* (Ф. Дастаеўскі). Кажуць, што некаторыя лічылі бабра рыбінай, каб якраз у пост паласавацца скаромным без граху. Пра гэта пісаў і Ф. Булгарын: *Гастрономы, особенно католические монахи,*

*о точности, объ отсутствии лишняго и потому весьма удобно напоминаютъ о голоде* (Толковая Библія. – Т. 11. – С. 540–541).

Аб значымасці голаду ў людскім светапоглядзе сведчыць і той факт, што толькі з’яўленне чорнага вершніка суправаджаецца размовай. Іаан чуе рэпліку ад адной з жывёлін, якая гаворыць пра цэны на ячмень і пшаніцу, елей і віно. Прыйдзе голад, і цэны на хлеб узлятуць, а на прадметы раскошы застануцца такімі, як і былі, бо яны далёка не самыя галоўныя ў жыцці. Мера пшаніцы за дынарый азначае пачуццёвы голад. Аднак прапанаваная цана яшчэ больш-менш прымальная: падзённы найміт мог за дзень працы зарабіць крыху болей, чым літар збожжа. Падобныя біблейскія і евангельскія вобразы і сімвалы будуць дамінаваць у еўрапейскай літаратуры (творы Мільтана, Томаса Мана, У. Караткевіча).

Хлеб і свабода, воля – вызначальныя апоры быцця ва ўстаўной прытчы “Великий инквизитор” з “Братьев Карамазовых” Ф. М. Дастаеўскага. Ва ўсе часы для людзей самае страшнае, калі *Господь Сафаоф отнимет всякое подкрепление хлебом (Ис: 3, 1)*. Невыпадкова падобная страта ўспрымалася карай нябеснай: *Если и после сего не исправитесь и пойдете против Меня, то и я пойду против вас и поражу всемеро за грехи ваши. Хлеб, подкрепляющий человека, истреблю у вас* (Лев: 26, 23–25). Фёдар Міхайлавіч звяртаецца да Евангелля, дзе ўзгадваецца саракадзённы пост і малітвы Збавіцеля ў пустэльні, падчас якіх вораг роду чалавечага спрабуе яго спакусіць: *Если ты Сын Божий, скажи, чтобы камни сии сделались хлебами* (Мф: 4, 3). Д’ябал спакушае Ісуса здзейсніць цуд не з адным каменем, а з многімі, што і прыдасць яму неабходную сілу і ўладу над людзьмі. Рускі пісьменнік упэўнены, што народ у сваёй большасці не гатовы ісці за ўяўнымі дарамі нябеснымі, калі нехта ў гэты час прапаноўвае яму хлеб зямны, рэальны. Ф. Дастаеўскі сам у нечым нагадвае шатана, які спакушаў Хрыста, сцвярджаючы, што Богам стаць вельмі лёгка: *А видишь ли сии камни в этой нагой раскалённой пустыне? Обрати их в хлебы, и за тобой побежит человечество как стадо, благодарное и послушное, хотя и вечно трепещущее, что ты отымешь руку свою и прекратятся им хлебы твои* (10, 230). Падобнае ўзаемадзеянне прарока і натоўпу застанецца актуальным ва ўсе вякі.

З тых далёкіх часоў назва хлеба мае высокі сэнс, яна сакральная, магічная. У беларускім фальклоры і этнаграфіі, а таму і ў значнай ступені і ў літаратуры, хлеб выразна сакралізуецца, вакол яго ствараюцца цэлыя рытуалы, замовы і павер'і, складаюцца прыказкі і прымаўкі. Нават славуты М. Нікіфароўскі, вучоны-этнограф, які, здаецца, павінен захоўваць спакой дзеля аб'ектыўнасці, і той усклікае як паэт у вышэй цытаванай беларускай кулінарнай энцыклапедыі: *Главный предметъ -ды дома и въ дорогъ, въ будни и въ праздникъ, въ заурядной и парадной жизни, нер-дко первый и посл-дний, другими словами – единственный предметъ -ды – есть хлебъ.* Ён жа называе якраз сем (сакральны лік) гатункаў хлеба: "чыстый", "градовый", "пушнэй", "пылавэй", "бульбянэй", "мякінный".

Што ж тады казаць пра паэтаў, якія даволі часта збіваюцца на экзальтацыю. У сваім першым санеце са славутага цыклу У. Шэкспір пісаў: *Making a famine where abudance lies.* У славутага паэта *famine* – пустата, голад, адсутнасць хоць самага мінімальнага запасу для нашчадкаў. Гэта сведчыць: голад і перанасычэнне былі звычайнымі з'явамі ў эпоху царавання Елізаветы, што і знайшло сваё увасабленне ў ягонай творчасці.

Вернемся ў нашыя палестыны. *Гавэнда з наднёманскіх палёў* "Акраец хлеба" Уладзіслава Сыракомлі сталася сапраўднай велічальнай одай у гонар галоўнага прадукта жыцядзейнасці чалавека. Твор насычаны не толькі маляўнічымі метафарамі і параўнаннямі, але перапоўнены выклічнікамі тыпу: "О, хлебная крошка!"; "Хлеб – слова святое на небе й пад небам"; "Хлеб збліжае з нябёсамі і Богам"; "Перад хлебам нават анёл нішто"; "Душа святлее ад хлеба". Польска-беларускі паэт стварае эпапею пераўтварэння зернейка ў акраец хлеба і ўзнаўляе ўсе таямніцы, звязаныя з гэтым працэсам. У выразна дыдактычным стылі ён паказвае, што сутнасць чалавека пазнаецца толькі праз хлеб і ягоныя адносіны да тых, хто яго здабывае. Менавіта таму і сам хлеб  падчас горкі. Бо ён бывае белым і чорным, што звязана не толькі з мукой, якая мелецца адпаведна з пшаніцы ці жыта. Лічыцца, што спачатку для яды выкарыстоўвалася толькі пшаніца, а жыта пэўны час нават лічылася пустазеллем. Але паступова апошняе перамагло, дзякуючы сваёй непераборлівасці і ўстойлівасці да холаду. А кардынальныя кліматычныя змены

і дазволілі яму расці дзе заўгодна, што і прывяло да поўнай перамогі ў гэтым змаганні. Пшаніцу сеялі мала, яна – для багатых, паноў, і колер хлеба з яе адпаведны – белы. З жыта ды іншых злакаў пячэцца хлеб чорны, г. зн. для рабоў і сялян. Значымасць падобнага падзелу падкрэслівае і той факт, што ў залежнасці ад таго, які са злакаў дамінуе ў рэгіёне, некаторыя гісторыкі культуры вылучаюць жытнюю і пшанічную культуры ў гісторыі пэўных народаў і краін. Гэта ж у афарыстычнай форме сцвярджае мясцовы філосаф Торба з "Запісак Самсона Самасуя" А. Мрыя: *Жыта ўсіх корміць, а пшаніца па выбару (49, 55).* Беларусы ж спалучаюць элементы абодвух зерневых раслін, што дазваляе сцвердзіць – мы не *potates eating,* бо не належым да бульбяной культуры.

Як сведчыў згаданы М. Нікіфароўскі, хлеб з прасеянай мукі лічыўся самым лепшым, аднак пераважаў хлеб з лебяды, бабоўніку, большую частку складала аўсяная, ячменная ці пшанічная мякіна. І гэта не вынаходніцтва беларусаў. Яшчэ Герадот пісаў, што егіпцяне зразалі лііліі, якія называлі лотасам, сушылі на сонцы, таўклі зярняты, падобныя на мак, і пяклі хлеб на агні (80, 103). Іншая справа, што тут ён стаўся не менш папулярны, чым у Егіпце, дзе, напомнім, ураджай збіраюць два, а то і тры разы за год. *На мякіне гадаваўся,* – так Я. Колас характарызуе тутэйшага селяніна. Я. Лучына апісвае хлеб, у якім столькі мякіны, што можа ўспыхнуць, калі яго паднесці да агню. Хлеб суправаджае беларуса з калыскі да труны. Бабцы-павітусе трэба даць за работу бохан хлеба і пляшку гарэлкі ("Кепска будзе" Ф. Багушэвіч). Без хлеба не праводзяцца ні хрэсьбіны, ні заручыны з вяселлем, ні хаўтуры.

Хлеб – крыніца жыцця і здароўя, недасяжная мара ўсіх пакаленняў. Трудна жылося малым дрывасекам з апавядання Зм. Бядулі, для якіх існуе адзіная радасць на свеце:

*– Добра, што хоць на полудзень маем па кавалку хлеба…*

*Паваліўшы некалькі хвой, хлопчыкі ўзяліся шчыра грызці сухі хлеб. Вочы іх заіскрыліся, шчокі расчырванеліся…*

*– Ого, есці, ого!.. Якая радасць!.. (32, 75)*

Каго не смажыць, той не будзе піць з насалодай. Толькі па-сапраўднаму галодны чалавек можа адчуць смак чэрствага хлеба. Працытуем фрагмент з дэбютнага твора Э. Ажэшкі "З гадоў

голаду” ў перакладзе А. Гурыновіча: *Дзіўне смутныя былі гады 1854–5–6. Голад. Страшны голад пякельнымі мукамі раздзіраў грудзі народу; тысячы гэтых, дзякуючы працы каторых край хлеб паўшэдні і не паўшэднія збыткі маець, каналі смерцяй галоднай. Адзін крык – баляшчы, цяжкі, атчаянны – застагнаў з грудзей народу: хлеба, хлеба! – адбіўся ад неба і разышоўся па зямлі. Неба сільнейшую гарачыню летам і густыя дажджы вясною саслала; збожа пагніло ў далінах, пасохла на прыгорках; шчаслівейшыя браты гулялі весела, а народ, выдабываючы сілы паследнія, клікаў: хлеба, хлеба! (85, 502)*.

У *дзіцячай гутарцы* “Лялька” У. Сыракомлі маленькая дзяўчынка думае зусім не пра тое, што, здаецца, павінна трывожыць дзіця. Убачыўшы, як сяляне крычаць: *Дай хлеба, паночак! Дай хлеба!* – яна вырашае, што не будзе бессардэчнай, а здабудзе збожжа і накорміць усіх галодных. Падзеліць так, як Іісус дзяліў рыбу і хлеб, каб задаволіць усіх. Паненка засынае разам з лялькай, а галодны народ таўчэцца ля вакон. Яшчэ раз падкрэслім, што вельмі выйгрышна паказваць голад праз прызму ўспрымання дзіцяці. Згадаем апісанні галодных дзяцей у Дж. Свіфта, Ф. Дастаеўскага (“Мальчик у Христа на елке”), Г. Караленкі, Зм. Бядулі, Янкі Купалы. Радкі Якуба Коласа характарызуюць сітуацыю ў краіне лепш і дакладней, чым дзясяткі прац навуковых эканамістаў і сацыёлагаў: *Рады чэрстваму кусочку дзеткі бедныя ў нас; За скарынку хлеба біўся (43, 183, 126)*. Падобныя творы заўсёды вылучаюцца выключнай сентыментальнасцю. У вершы Р. Барадуліна “Ашуканка” маці “падманвае” сына і аддае яму большы кавалак хлеба, а сама ашуквае голад крапівай ці шчаўем. Хлопчык з апавядання Барыса Сачанкі “Хлеб” з голаду ўчыняе “злачынства”: з’ядае долю брата, які ад раніцы працуе ў сырым і халодным лесе, і кавалачак хлеба быў яму адзінай надзеяй заглушыць нязменнае жаданне есці. І да гэтага часу яго мучаць гарпіі сумлення, хоць ніхто з родных не папракнуў дзіця. Луста хлеба здзяйсняе цуды ў творы В. Гапеева: *голад толькі прыціхаў ледзь-ледзь, калі маці прыносіла (але як рэдка прыносіла) дадому свежы хлеб, і Сяргей прыпадаў ваўкавата да адламанага кавалка, пах якога разрываў ноздры* (90).

Маленькая гераіня апавядання І. Шамякіна “Хлеб” апавядае: *Я хварэла; знясіленая, многа спала і часта сніла хлеб – цэлыя*

*горы мяшкоў з мукой ці боханаў… Круглыя, з падсмажанай скарыначкай, так смачна пахлі, што ў сне пачынала гнаць сліну. Я каўтала яе і прачыналася ад спазмаў, ад болю ў жываце (91, 243).* Маленькай пакутніцы не на многа старэйшы брацік даваў вараную ваду з крупінкай сахарыну і кавалачак чорнага, як вугаль, хлеба велічынёй з пальчык. Але гісторыя дзяўчынкі не сталася трагедыяй, бо першая развівалася па законах каляднага апавядання. Толькі добрым анёлам выступіў спачатку яе вясковы дзядзька, а, калі той не справіўся з роллю, то на авансцэну выступіў сам Ленін, які і накарміў галодную, даў ёй мажлівасць пакаштаваць сапраўднага хлеба. Самае неверагоднае стваралася ў сусвеце сацрэалізму, цуды якога не саступалі біблейскім. На жаль, у звычайным жыцці было па-іншаму. Дзяўчынка з рамана Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", міма якой пралясцела кавалькада боскіх служак у бліскучых строях, нават не ведае, што такое хлеб. І ніколі не зведае. Не прыйдзе знешняя сіла, ні рэальная, ні нябесная, ратаваць няшчасных галодных дзетак з апавядання Ігара Сідарука "Пяць хлябоў Дабравесця", загаловак якога інспіраваны евангельскім цудам Хрыста, накарміўшага 5 000 (не лічачы жанчын і дзяцей) сваіх паслядоўнікаў пяццю ячменнымі хлябамі і дзвюма рыбінамі. Дзеткі хацелі есці, яны заўсёды хацелі есці: *Асабліва ім падабаўся хлеб. Звычайны чорны хлеб, які дзеці любілі ўмакнуць у ваду і, калі ў хаце вадзіўся цукар, пасыпаць ім зверху. Калі цукру не было, яго замяняў пясок. Пясок хрумсцеў на зубах не горш за цукар.*

Герой згаданай раней аповесці Н. Гілевіча, у якім адразу пазнаецца аўтар, не зводзіць вачэй з невялічкага, грамаў на 100, кавалка хлеба, давеска, што выпаў з рук добра апранутага мужчыны. Ён не можа адарваць пагляд ад "куплёнага" хлеба і чакае, калі гаспадар адыдзе, каб ухапіць нечаканы скарб. Але разам з падлеткам за ім (хлебам) цікуе і былы франтавік, якому, па ягоных словах, "медалі хлеба не далі". І хлопец саступае, хаця ў хаце яго чакае зусім іншая ежа, пра якую пісалі практычна ўсе беларускія пісьменнікі, што нарадзіліся падчас вайны ці перажылі яе наступствы: *Дома гэтыя шайморы мама ачышчае ад шалупіння і, абмыўшы ў вадзе, каб не засталося пяску, ссыпае ў вялізную ступу. Таўчы іх таўкачом ахвотна бярэмся мы з братам – на змену. Ахвотна, бо чым хутчэй стаўчом, тым*

*скарэй паласуемся шайморавымі аладкамі. У цеста, чорнашэрае, як тая ралля, на якой мы іх збіралі, мама дадае два-тры яйцы – “каб аладкі былі трохі разумнейшыя”. Есці іх трэба гарачымі, адразу ж са скаварады – тады яны, па-першае, мякчэйшыя, а па-другое – не так чуцен цяжкі трупна-земляны дух. Зрэшты, не з меншым апетытам елі мы іх пасля і халодныя* (33, 327–328).

І яшчэ адзін раз д’ябал спакушае маладога хлопца, калі той прыездзе ў Мінск на нараду маладых пісьменнікаў: *Толькі цяпер я ўбачыў на падаконніку амаль не цэлую фармавую буханку хлеба. А я ўжо і ўспомніць не магу, калі я ў апошні раз еў гэтакі гарадскі магазінны хлеб! Я павярнуўся да акна, пацягнуў носам – і божа мілы! – як жа мне захацелася зноў пакаштаваць гэтага хлеба!* Супрацоўнік інтэрната, які засяляў будучага паэта, убачыўшы галодныя вочы юнака, сказаў, што той можа з’есці хлеб, бо масціты пісьменнік, які яго пакінуў, тут жыць не будзе. Ва ўзбуджанай свядомасці творцы адбываецца цэлы дыспут: *Добра кажа: “Рэж, калі галодны!..” Як гэта – рэж? Калі б гэта сам гаспадар буханкі адрэзаў ды прапанаваў мне хоць лустачку, хоць маленькую лустачку!.. Не толькі не адмовіўся б, а ўзяў з вялікай удзячнасцю. З гэтымі думкамі я сядзеў на ложку і раз-пораз зіркаў на буханку* (33, 282).

Няякасная яда, або дэфіцытнае харчаванне, аказвае ўплыў на агульны стан здароўя чалавека. Доўгі час лічылася, што пачварныя абліччы простага люду на карцінах Брэйгеля і Босха абумоўлены іх сатырычнай скіраванасцю. На самой справе вялікія мастакі паказалі рэальныя твары людзей, вымушаных харчавацца хлебам, выпечаным з зерня, заражанага *спорыньей*. Але і чысты хлеб можа шкодзіць.Так, калі мачыха прыйшла забіраць маленькага Віктара Казько ад бабулі, то ёй прышлося яго несці, бо дзіця ўжо не магло хадзіць з голаду. Жанчына пакарміла Віцю аладкамі з сапраўднай мукі. Аднак хлопчык, узгадаваны на бульбяных лушпайках, зусім заслабеў ад тых аладкаў, яго хістала, круціла жывот, несла і ванітавала. Мачыха наракала на долю, што ёй дастаўся такі засранец. Але гэта ўсё ад паганай ежа, якая абумоўлівае паталагічныя змены ў органах стрававання. Да гэтага часу Віктар Апанасавіч з болем згадвае: *Я бачыў у дзяцінстве гэтыя гізунты і як іх можа выпіраць, ад недаеду, супа з лебяды*

*і крапівы, хлеба з тырсы і мякіны* (92, 273). А дзеці пасля таго, як збегалі за хлеў, не падцягвалі споднікі і нават выхвальваліся гэтым выродствам. Маленькая пакутніца Ганначка з твора І. Сідарука *зыходзіць проста крывавай бягункай.* Дарэчы, чамусьці пісьменнікі вельмі рэдка акцэнтуюць увагу на акце дэфекацыі, які ў выключнай ступені звязаны з нашай асноўнай тэмай. Бо яшчэ Томаса Мора папракалі ў тым, што жыхары ягонай слаўнай Утопіі мелі толькі два задавальненні: есці і апаражняцца. Адзін Лукрэцый згадвае, што ў Рыме на скрыжаваннях ставілі спецыфічны посуд і нізкія чаны, каб у іх памачыцца. Пасля абраду падціраліся надушанымі ваўнянымі анучкамі. Сенэка згадваў пра чалавека, якога вялі на з'ежу звярам. Ён забег у туалет, схапіў прывязаную да кія губку, якой падціраліся, і ўпіхнуў сабе ў горла. Рабле пакінуў цэлы трактат аб тым, што можа стаць падціркай. Ён жа апісаў цэлае падарожжа ў страўнік героя групы работнікаў, якія грузяць і выдаляюць кал, што не можа выйсці самастойна са страўніка веліканa. Немажлівасць апаражніцца прыносіць вялікія пакуты, пра што згадваюць вязні А. Салжаніцын і В. Шаламаў. Апошні ўдакладняе свайго вялікага папярэдніка: *Томас Мор в утопии определил четыре основных чувств человека, удовлетворение которых доставляет высшее блаженство. Голод – удовлетворение съеденной пищей; второе по силе чувство – половое; третье – мочеиспускание; четвертое – дефекация.* Апісаўшы голад вязняў, якія трацяць чалавечае аблічча ў пошуках ежы, ён натуралістычна ўзнаўляе адваротны працэс: *Доходяга испражняется раз в пять суток, опровергая учебники по физиологии, даже патофизиологии. Испражнение сухих катышков кала: организм выжал все, что может сохранить жизнь* (93).

Аднак вернемся да больш узнёслай тэмы. Уладзімір Някляеў даволі скептычна адносіцца да спробы асвяціць галоўны чыннік ежы: *З вечнага голаду ў нас святая пашана да хлеба, больш ні з чаго. Я сам дагэтуль, як маці наказала, скарынку зацвілую не выкіну. А што такое хлеб?.. Злак. Трава. Там, дзе ёсць што есці – хлеб амаль і не ядуць* (94, 239).

З таленавітым паэтам не пагаджаецца Э. Сетан-Томпсан у кнізе "Прэрыі Арктыкі", прысвечанай арктычнаму рэйду 1907 года. Пісьменнік рэалістычна паказаў дзікія пакуты голаду, зведаныя індзейцамі і белымі ў славутым паходзе: *Пища наша*

*состояла из лосиного мяса и чая. Ни сахару, ни соли не было в помине. Тоска по хлебу становилась всё сильней. Индейцы называли это чувство мясным голодом. Мясная пища трижды в день вызывала отвращение.*

Кажуць, што хлеб, у адрозненне ад усіх састаўных кампанентаў харчу, ніколі не прыядаецца. Ды і цэніцца толькі тое, што страчана. З якой любоўю *пресыщенный* усім О. Уайльд у турме з'ядае крошкі белага хлеба, які, як вядома, не насычае, але ў дадзеным выпадку сімвалізуе ўсё, што страчана: волю, незалежнасць, аўтарытэт (споведзь " De profundis").

Для беларускага народа падобны выбар застаецца на ўсе вякі актуальным, пра што і сведчыць толькі кароткі пералік твораў, напісаных ў розныя гады: "Песня пра хлеб" А. Вярцінскага, балада "Хлеб" Янкі Сіпакова, споведзь "Сірочы хлеб" Я. Брыля, паэма "Хлеб" П. Броўкі, "Чорны хлеб" А. Жалязоўскага, народная казка "Лёгкі хлеб", гераічная аповесць "Хлеб пахне порахам" І. Шамякіна, "Мой хлеб надзённы" і "Збор калосся" Максіма Танка, "Хлеб для партызанаў" М. Пазнякова, займальны "Хлеб – хлябок" А. Дзеружынскага, "Родны хлеб" Н. Гілевіча. У шматлікіх творах хлеб услаўляеццца, апяваецца, сакралізуецца, пісьменнікі надзвычай часта збіваюцца на патэтыку. Адштурхоўваючыся ад тэзісу А. Бальзака, можна смела заявіць: Мы карміліся хлебам, а не мясам – таму мы нацыя паэтаў. І не толькі: народны мастак М. Савіцкі на сваіх палотнах нават шыфруе тэму эўхарыстыкі ("Хлеб", "Хлеб новага ўраджаю", "Хлябы").

Мы аналізуем толькі творы, у якіх апісваецца голад і ягоныя праявы ў жыццядзейнасці чалавека. Аднак хлеб не можа страціць сваёй сакральнасці ў нацыянальнай культуры: *Не хлебом единым будет жить человек, но всяким словом, исходящим из уст Божьих* (Второзаконие: 8, 3) Кавалак хлеба дазваляе вырашаць адвечныя філасофскія праблемы быцця і сутнасці чалавечай: *Отравлен хлеб, и воздух выпит* (Мандэльштам. Адносіны да хлеба становяцца тэстам на гуманнасць, а ён сам успрымаецца асялком, на якім выпрабоўваецца чалавечая аснова. Згадаем казку Андэрсана "Дзяўчынка, якая наступіла на хлеб". Гераіня гэтага не вельмі вядомага твора славутага казачніка, шкадуючы свае бліскучыя туфелькі, становіцца на бохан хлеба, каб пераскочыць калюгу. Хлеб за абразу вышэйшых сілаў цягне яе на самае дно,

дзе жыве балотніца. Там няшчасная вымушана пакутаваць ад голаду: *ей казалось, что внутренности пожрали сами себя и внутри стало пусто, ужасно пусто.* Самае страшнае было ў тым, што дзяўчынка стаяла на хлебе і, паміраючы ад адсутнасці харчу, не можа сагнуцца і адламаць хоць крышку. У падобным стане чалавек гатовы на ўсё. В. Шаламаў так характарызуе героя на шляху расчалавечання: *Он делился последним куском, вернее, еще делился… Это значит, что он так и не успел дожить до времени, когда ни у кого не было последнего куска, когда никто ни с кем не делился* (62, 111). Чалавек да таго часу захоўвае ўласцівыя яму як віду рысы, пакуль здольны ў невыносных умовах падтрымаць іншага. М. Бярдзяеў сцвярджаў: *Когда ты голоден, это биологическая проблема, когда голоден рядом человек, твой брат, это уже нравственная проблема*. Галодны Іван з “Альпійскай балады” аддае апошні кавалак звар’яцеламу ад голаду немцу і тым самым вытрымлівае зкзамен на права чалавекам звацца. Па сутнасці створана сітуацыя, як у творы В. Цендракова “Хлеб для собаки”: *Не облезлого пса я кормил кусками хлеба, а свою совесть.* А быкаўскі герой не мог быць іншым ён захаваў адвечны закон беларусаў, пра які пісаў вядомы пісьменнік А. Рыбакоў у рамане “Важкі пясок”: *Обязательно посадят за стол. И хотя главной их пищей была бульба – картофель, но из картофеля они готовили вкуснейшие блюда: бульба со шкварками, бульба с грибами, бульба с кислым молоком*. Падобныя ўрокі застаюцца вызначальнымі і для тых, хто выжыў у падобных сітуацыях. Так, А. Адамовіч згадвае словы блакадніцы: *Помяни, Господи, всех умерших с голоду, которые не дождались досыта поесть хлеба*.

Раман У. Караткевіча “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” цалкам заснаваны на супастаўленні хлеба зямнога і нябеснага. Так, ужо другі раздзел, які і пачынае дзеянне, называецца зусім па-біблейскі: *Голад, пошасць, мор*. А эпіграфам да яго становяцца радкі з кнігі “Руф”: *У тыя дні, калі кіравалі суддзі, здарыўся голад на зямлі*. Незлічоныя зграі мышэй, што заслалі сваімі цельцамі дарогу да Гародні, і ёсць суровае і неадпрэчнае прадказанне гэтага самага страшэннага пакарання ўсяго жывога.

Сімволіка-алегарычным увасабленнем адвечнай праблемы з’яўляецца і вытрыманая ў абсалютна нетрадыцыйным стылі

“Паэма жніва” А. Разанава, нават не верыцца, што напісана яна была ў 1974 годзе, настолькі па-майстэрску яна зробленая, прычым выключна ў тым адметным рэчышчы, да якога беларуская паэзія звернецца толькі на пачатку новага тысячагоддзя. Ужо ўступныя радкі:

*Упала зерне –*
*і не ўзышло,*
*а што ўзышло – куколле заглушыла,*
*а што не заглушыла – выбіў град,*
*астатняе развеяў вецер… (95, 3) –*

разам з наступным апісаннем звяроў, што зграямі выбягаюць з лесу, пакідаючы свае норы, іх пачварных танцаў-пантамім, крумкачоў, што засцяць сонца, выклікаюць рэмінісцэнцыі з вядомымі старонкамі Старога і Новага запаветаў і, асабліва, прытчамі Хрыста, дзе ў той ці іншай ступені закранаецца праблема хлеба і голаду (фізічнага і духоўнага) (*Притча о сеятеле, О добром семени и о плевелах, О семени, взрастающем в земле неприметным образом).* Несумненна, што дадзеныя асацыяцыі вынікаюць з евангельскай прыпавесці, якую расказваў Хрыстос сваім вучням (Матф: 13, 24). У ёй сейбіт параўноўваецца з Царствам Божым: *С-ющий доброе с-мя есть Сын Человеческій; Поле есть мір; доброе с-мя, это – сыны Царствія, а плевелы – сыны лукавого.* Одновременно *с-ятель слово с-ет* (Марк: 4,14), ибо *пос-янное на доброй земл- означает т-х, которые слушают слово, и принимают, и приносят плоды*. Увасабленне жахаў голаду, разбурэння і знішчэння, з’яўленне страшэнных істот, што авалодваюць светам, нагадвае “Плач Іерэміі” па разграбленаму і спустошанаму Сінаю, па якому бегаюць галодныя лісы (у паэме А. Разанава звяры хаваюцца *панура і трывожна* ў жыце, бо *яны прыпаміналі кут, куды памерці паспець трэба…*

Апісанне жабрацкіх палапленых торбаў, што *худой дзятвой чапляліся за шыі* (адметнае параўнанне!) – ёсць ні што іншае, як алегарычнае ўвасабленне змучанага народа, які губляе веру ў безнадзейным чаканні Месіі. Духоўны пачатак гэтага спрадвечнага чакання падкрэслівае і тое, што калі звяры, крумкачы, натоўпы і нябогі ўсё ж такі атрымалі тое, што прагнулі, займелі тое, што хацелі, *алчущие − насытились,* то *Сэнс ўсё пытаўся пра спажытак.*

У гэтым пераконваюць рытарычныя воклічы, якія надзвычай адпавядаюць змрочнай атмасферы твора: *Народжаны ад хлеба, прагну хлеба*; а таксама нястомныя і бясконцыя пошукі сейбіта, у якога патрэбна спытаць пра час будучага жніва, бо ўжо ў іншых каласы на гэтым незвычайным сяле-полі наліваюцца плёнам, моцай і гонарам. І толькі ў пакрыўджаных і прыніжаных яно зарастае кукалем, пустазеллем, якія растуць разам з пшаніцаю. Беларускі паэт у чарговы раз падкрэслівае марнасць надзей і спадзяванняў на хуткае з’яўленне сейбіта, які павінны растлумачыць, што мусіць сеяць народжаны ад хлеба і што такое жніво наогул, бо ў гэтым свеце нічога проста так не здзяйсняецца:

*Ніштo не гіне раптам і бяздонна,*
*заўсёды застаецца нейкі прынцып,*
*які сцвярджае жыта і зямля,*
*нат і тады, калі ўзрасло куколле. (95, 5)*

Бо ўжо з’явы прыроды падаюць свой прарочы знак, знаменнямі і прадказаннямі напаўняючы сусвет:

*А спелы вецер намаўляў: рыхтуйся,*
*а поўня нахілялася: рыхтуйся,*
*і камяні круціліся: рыхтуйся –*
*рыхтуйся неаслабна да жніва… (95, 5)*

А таму, нягледзячы ні на што, душа рыхтуецца да велічнай падзеі, і хоць жніво яшчэ не бачнае, нават не згадваецца ў бліжэйшай перспектыве: няма яшчэ чаго жаць, бо не было сейбіта, – аднак ужо раздзімаецца горан, наразаецца серп, *рыхтуюцца да выніку, да плёну, да жніва.* Той, хто народжаны ад хлеба, не толькі прагне хлеба, але разам з тым імкнецца зразумець сутнасць быцця, спасцігнуць Сэнс, спрадвечны і непадзельны. Жабракі, што прайшлі па ніве, ужо пабялелай для жніва, – гэта алюзія на словы з Евангелля ад Іаана (4:35) *возведите очи ваши и посмотрите на нивы, какъ он- поб-л-ли и поспели к жатв-*. А разам гэта чарговы напамінак тым, хто ўмее бачыць і спасцігаць убачанае, што існуе і іншае жніво, намнога больш істотнае і значымае, чым рэальнае – зварот і свята душы, і гэтае жніво павінна адбыцца тут і зараз, бо і нівы пабялелі, і жыта духоўнае паспела. У Евангеллі Апостал прымушае ўсіх глядзець на нябачнае,

велічнае і значымае, спасцігнуць якое немагчыма звычайнымі вачыма, бо ў іх не ззяе вера.

Нараканні чалавека, нібыта пакінутага ў гэтым надзвычай прасторным свеце, ад якога ён не можа пазбавіцца нават у сне, адразу нагадваюць *глас вопиющего в пустыне.* Бо на воклічы – трэнасы *куды ж падзеўся сейбіт?* у адказ толькі чуецца маўчанне, разгойданае крыкам крумкачоў, выццём звяроў, усклікамі натоўпаў і шэптам жабракоў. І толькі затым, ужо ў самым фінале твора, чуецца вечны голас, што спасцігае ісціну:

*А там, за ім –*
*як мог яго раней не заўважаць я,*
*чаму не заўважаў яго раней?!. –*
*свяціўся незнішчальны голас Сэнсу*
*і падымаў з зямлі неператожна:*
*Я хлеб ваш... я ваш хлеб... я хлеб жыцця... (95, 8)*

Беларускі паэт амаль паўтарае вечныя словы: *Ибо Иисусъ же сказалъ имъ: Я есмь хл-б жизни (Иоанна: 6,35).*Той, хто сее, і той, хто жне, могуць не супадаць у адзінай асобе (Бог і Ісус), аднак разам яны радавацца будуць. А створаны ў паэме кантраст паміж эмацыйнай роспаччу і не менш яскравым знойдзеным спадзяваннем ўспрымаецца не як простая гульня ценяў у кампазіцыі твора, але натхняльнікам думкі ў яе развіцці-эвалюцыі ад пракляцця да асаны.

У “Паэме жніва” былі адзначаны і дакладна сфармуляваны тэзісы маральна-этычнай праблематыкі. Так, адштурхоўваючыся ад усведамлення непазбежнай гібелі канкрэтнага зернейка дзеля захавання жыцця ў цэлым, паэт разам з тым уздымае анталагічныя пытанні, што тычацца не аднаго рэальнага хлеба (праблема, актуальная не толькі для абранага народу і для беларусаў), але ў першую чаргу праблему хлеба духоўнага. Адштурхоўваючыся ад традыцыйнага менталітэту беларусаў, якія адчуваюць сябе паўнапраўнымі прадстаўнікамі чалавецтва, ён паказвае нацыі, у свядомасці якой доўгі час панавалі трэнас, песні-жальбы, светлыя агульналюдскія перспектывы. Галоўнае − спыніцца ў сваім вечным паязджанстве і хоць на імгненне асэнсаваць: “Адкуль? Куды я?”... Прайшлі часы, калі *стомлены кладзецца заснуць і спаць і ўсё, што ёсць забыць.* Трэба абудзіцца і рыхтавацца

плёнам да жніва. І ў гэтым схавана тайна, разгадаць якую і імкнуцца людзі:

*Пакуль жыву, хачу спасцігнуць сэнс*
*нябыту, і быцця, і прызначэння,*
*бо нездарма вяртаюцца шляхі –*
*нібы настаўнік паўтарае вучням:*
*твая дарога у табе самім.*

Кожны чалавек павінен даць адказ на адвечнае пытанне, узнятае М. Багдановічам у “Апокрыфе”: Што важней і істотней, жыта ці васілёк, краса ці спажытак? На гэта жартаўліва, як заўсёды, дае свой адказ Л. Савёнак: *Бо не аб адзіным хлебе жывы чалавек бывае. – Праўда, да хлеба патрэбна і скварка* (45, 256). А да скваркі, зразумела, пра што і спявалася ў народным гімне “Бывайце здаровы” Адама Русака, трэба, каб вялася і чарка.

# 4 ПІ, АЛЕ ЗАКУСВАЙ

У настольнай кнізе таварыства ананімных алкаголікаў “Дванаццаць рэкамендацый, як захаваць цвярозасць” падкрэсліваецца, што галоўны вораг чалавека, які кінуў піць і хоча назаўсёды пазбавіцца гэтай хваробы, – голад. І толькі потым у гэтым шэрагу ідуць стомленасць, гнеў і адзінота. Менавіта таму заўсёды першым крокам да поўнай цвярозасці, галоўнай запаведдзю адэптаў арганізацыі з’яўляецца наступная – *Ешце столькі, колькі зможаце: на поўны жывот вам меньш захочацца выпіць.* Славуты рускі псіхіятр С. Корсакаў, аўтар першай дысертацыі па праблемах алкагалізму, лічыў, што масавае п’янства ў Расіі пачалося з таго часу, калі гарэлку сталі прадаваць толькі ў кабаках. А закускі гэтыя піцейныя ўстановы не прапаноўвалі.

Пастаяннае недаяданне або поўная адсутнасць ежы і штурхае людзей да ўжывання прадукта, які валодае велізарнай каларыйнасцю і прымушае забыць пра голад. “Гармон голаду” *грэлін* спрыяе развіццю алкагалізму, – сцвярджаюць медыкі. Археолагі даказваюць, што старажытныя мексіканцы ратаваліся ад голаду алкаголем. І не адны яны. Так, добра вядома, што пры цары Гадунове ў Расіі панаваў дзікі голад. Баяры, баючыся бунту, раздалі людзям зерне з *государственных закормов страждущему и голодающему народу*. Але яно амаль цалкам пайшло на вытворчасць гарэлкі, што заканамерна для паўночных народаў, якія трапляюць у аналагічныя сітуацыі. Герадот пісаў, што такое здаралася і ў Егіпце, дзе віно робяць з ячменю, бо ў гэтых краінах не расце вінаградная лаза (80, 103). Рускі пісьменнік В. Ерафееў у сваім славутым творы “Москва-Петушки” афарыстычна падкрэсліў асноўны закон быцця для тагачаснага СССР: *Больше пить, меньше закусывать.*

Нешта падобнае было і на нашай зямлі, асабліва ў XIX стагоддзі, пасля далучэння беларускіх земляў да Расіі. Невыпадкова якраз з гэтага часу карчма становіцца пачварай у беларускай мастацкай традыцыі, своеасаблівым сімвалам духоўнага і фізічнага вынішчэння нацыі. А. Ельскі пісаў, што пакуль дашукаешся адной школы з кніжкамі, пройдзеш трыццаць корчмаў з гарэлкай. Ці не таму герой *сялянскіх песенькаў* Яна Чачота пастаянна жаліцца: *Еў бы цяпер чысты хлеб, А не пухавінку, Каб я часта не*

*сядзеў У паганым шынку; А бадай ты новая Карчомка згарэла, Як мая цераз цябе Хатанька згалела* (96, 37). Ён кляне карчму, што забрала хлеб, воліка, кароўку, сярмягу.

Літаратура XIX ст. пакінула пачварныя бытавыя замалёўкі, дзе галодны селянін шукае ўцехі і супакою ў чарцы. Складваецца ўражанне, што гарэлка вынішчыла памяць пра сям'ю і родную хату, у якой *Дзеткі без хлеба // Плачуць і крычаць* (85, 125). Разам з ім пакутуюць і няшчасныя жывёліны, заложнікі вадаў чалавечых: *Волікі гукаюць, // Авечкі мычаць*. П'яны і галодны гаспадар забываецца на свае абавязкі:

*Конік пад карчмою*
*Увесь дзень стаіць,*
*Ніхто яму не даў*
*Ані есці, ані піць*.

Васіль з *аказіі* Г. Марцінкевіча "Адвячорак" усклікае ў карчме*: Што нам голад, перапала?// П'ян – і тугі аб том нет!* Ягоныя сябрукі за сталом мараць пра той час, калі яны змогуць *гарэлку піць жбанамі* і закусваць, як паны.У ананімнай "Гутарцы Данілы са Сцяпанам" канстатуецца, што мужык без гарэлкі перабыць не можа, нягледзечы на слёзы галодных дзяцей. Вось чаму ён усё цягне ў шынок, каб атрымаць чарговую мерку *аква вітэ*.

Бацька героя апавядання Зм. Бядулі "Сцёпка" прапівае два пудзікі жыта, якія маці *вымантачыла* ў суседа на адработак летам. І цяпер дзеці будуць душыцца адной бульбай, якая таксама скора скончыцца.

Не бачыцца зменаў да лепшага і ў сучаснай мастацкай традыцыі. У трыпціху "Байкі жыцця" Васіля Быкава распавядаецца пра фантастычныя краіны, дзе раптам стала не хапаць ежы, нягледзячы на самую перадавую ідэалогію:

*А тым часам есьці ў краіне зусім не стала чаго. Было зразумела, што галоўная нацыянальная ідэя не працуе, што прыйдзецца шукаць новую. І тады вынайшлі ідэю часовую, якая мела выдатную перспектыву стаць фундамэнтальнай. Яна ня толькі не адмяняла ранейшую, але ўзьнімала яе на новую вышыню – што было надта важна. І ўрад кінуў увесь дзяржаўны бюджэт на вытворчасць гарэлкі.* Зразумела, аўтар стварае фантасмагарычную сітуацыю ў стылі Мора, Рабле, Свіфта,

невыпадкова можна выявіць  падабенства паміж утапічнымі ці антыўтапічнымі дзяржавамі, што з'явіліся дзякуючы фантазіі класікаў: *Гэта сапраўды выклікала небывалы народны ўздым. Народ усё зразумеў і прыняў бяз словаў – што значыць навуковая беззаганнасць ідэі. На мітынгах у гарадах і вёсках прамоўцы гаварылі пра новую культурна-псыхалагічную рэвалюцыю ў краіне, пра яе лёсавызначальны сэнс. Гарэлкай бясплатна забясьпечвалася кіраўніцтва, пасьля вэтэраны-пэнсіянеры (пры норме 1 бутэлька на 1 дзень), пасьля ўсе астатнія, уключаючы немаўлят. Сем'і, у якіх было шмат дзетак, раскашвалі як мае быць – і дарослыя, і дзеці ўвесь дзень пілі і рагаталі, астатні час спалі і пахмяляліся. І дзякавалі ўладзе, галоўнаму кіраўніку і мясцовым вэртыкальшчыкам, якія займелі адзіны пільны клопат – забясьпечыць самыя глухія куткі краіны сьвежай гарэлкай. Гэта належала рабіць без пасярэднікаў-злыдняў, якія нахабна заніжалі градус. Сацыялагічны інстытут, які правёў апытаньне (было ахоплена 100 % насельніцтва) выявіў небывалы паказчык тых, хто ўхваляваў новую палітыку ўраду, – 100 %. Папулярнасць кіраўніка-палкоўніка стала такая, што ўрад надаў яму чын Вялікага Каўдыльё* (81, 114–115).

З іроніяй В. Быкаў падкрэслівае, што нявырашанай засталася праблема, якая вынікала з аксіёмы, што гарэлку і віно трэба, у адпаведнасці з патрабаваннямі фізіялогіі,  закусваць. Згадваецца незабыўны У. Караткевіч, які ў якасці эпіграфа да ХХІІ раздзела рамана “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” выкарыстоўвае народнае выслоўе: *Пі, але закусвай*. Народны пісьменнік з горкай іроніяй сцвярджае, што  вучоныя і тут паспрыялі. Яны прапаноўвалі новыя спосабы ўжывання алкаголю, даказвалі, што есці штодня шкодна для здароўя, або сцвярджалі магчымасць выпіваючы не закусваць. Былі разбіты ўсе памкненні даказаць, што малако больш карыснае, асабліва для дзетак. Аднак усе гэтыя *поползновения* адвяргаліся цаной на харчы: гарэлка была самай дарагой. Наперакор  псеўдавучоным,  што прапагандавалі цвярозасць, была задзейнічана сацыялогія: *Супраць таго, каб больш працаваць, не пярэчыў ніхто – ні адна ўрадавая ці апазіцыйная партыя – з тым сапраўды былі згодныя ўсе. Але ніхто ў гэтай краіне ўжо даўно не працаваў, нашмат больш прыемна было піць. Паколькі гарэлкі на кожны дзень не хапала, пілі ўсё, што*

*лілося: самагон, сусла, піва, воцат, клапамор, тармазную і мазольную вадкасці, тасол, бэнзын, газу. Ніхто ў краіне не баяўся нікога, нікога ня слухаў – ні дактароў, ні міліцыянтаў, якія таксама пілі ня менш за астатніх* (81, 116).

І гэта не проста іранічны сцёб народнага пісьменніка. Па сутнасці, яшчэ раз згадваецца, што новае – гэта добра забытае старое. Урад умоўнай сучаснай краіны толькі згадаў стары закон, які існаваў на тутэйшых землях у даўнія часы, так званае *"пропинационное право" (от латинского propinare – пить за чье-либо здоровье) – исключительное право выделки и продажи крепких напитков на землях того или иного владельца. Сохранилось в Бессарабской губернии, в Царстве Польском, в Западном крае и в губерниях Прибалтийских и является для управомоченных лиц – пропинаторов – источником значительных доходов, нередко, в особенности во владетельных городах и местечках, обусловливающих главную ценность имения. Тем, что право пропинации есть право исключительное, монопольное, оно отличается от существующего в остальных частях России права частных владельцев и сельских обществ (ст. 487 Уст. Акц. Сбор., Св. Зак., т. V, изд. 1893 г.) разрешать и не разрешать раздробительную продажу напитков на принадлежащих им землях; не говоря уже о том, что в некоторых случаях патент на продажу спиртного на землях данного сельского общества может быть выдан и при несогласии на то со стороны общества (Уст. Акц. Сб., ст. 525–527), – закон запрещает и признает недействительными все условия и сделки, имеющие целью предоставление одному или нескольким лицам исключительного права на производство питейной торговли в виде монополии (Уст. Акц. Сб., ст. 488 и 560 прим. 2).*

Гэтае права было даўно вядома на Беларусі. Яно вырасла з права збіраць пошліну за гандаль ежай і напоямі і толькі пазней перайшло ў права продажу выключна моцных напояў, пачынаючы з піва. Яно (права) узнікла ў выніку адносін паміж тымі, хто валодаў зямлёю па праву залежнай уласнасці (dominum utile) і тымі, хто па каралеўскай прывілеі лічыў іх вярхоўнай вотчынай (dominus directus або supremus). Гэтыя адносіны, набываючы падчас характар прыгоннай залежнасці, амаль заўсёды давалі права ўладальніку вотчыны збіраць з асоб, што селі на ягоныя землі, самы разнастайны аброк.

Прапінацыйнае права захоўвалася да апошніх дзён Рэчы Паспалітай і перажыло нават увод у герцагства Варшаўскае кодэкса Напалеона. У землях, якія адышлі да Расіі, яно было прызнана састаўной часткай вотчыннага права. Нават калі ў 1866 годзе ўсе вотчынныя павіннасці былі скасаваны, прапінацыйнае права захавалася. Пра шкоду падобнай справы пісаў згаданы вышэй паэт і сенатар Г. Дзяржавін:

*3-е, Превосходн-йшіе прибытки получаются зд-сь больше отъ винокуренія: курятъ вино влад-льцы; курятъ панцырные бояра, окольная шляхта, попы, разныхъ орденовъ монахи и жиды.*

Мы і тут аказаліся не адзінокімі ў сусвеце. Пра бульбяны спірт і ягоную ролю ў кардынальных зменах у жыцці грамадства пісаў Ф. Энгельс у даследаванні “Пруская водка ў германскім рэйстагу” (97). Там нарабілі столькі таннай гарэлкі, што сталі яе экспартаваць. Зноў даем слова Г. Дзяржавіну: *8-е, Жалуются зд-сь на сильный вывозъ хл-ба Евреями въ Лифляндскую губернію, а оттуда на привозъ въ Б-лоруссію многаго количества вина* (70, 229–232). Аднак тут такога дабра хапала, бо спірт пераганялі ўсюды. У выніку такой творчай дзейнасці гарэлкі было выраблена столькі, што яна не знаходзіць збыту. Прыйшлося зніжаць цэны, адпускаць напавер, выдаваць замест заробку, нават прапаноўваць бясплатна. Пра гэта гаворыцца ў адной з першых паэм XIX стагоддзя “Два д’яўлы” Канстанціна Вераніцына:

*Гол народ наш, як свірэлка,*
*Падвяло яму жывот,*
*Зато дзёшава гарэлка*
*І выходзіць іншы шчот. (85, 70)*

Аб шырокай распаўсюджанасці падобнай практыкі сведчаць і запісы М. Танка: *Недзе чытаў я, здаецца, у Быстроня, што даўней мужыкоў змушалі піць гарэлку, нават кожнаму вызначалі норму. Так і прывучылі народ да гэтага пякельнага зелля* (15,268).

Значна раней пра гэта біў трывогу расійскі паэт: *5-е, Н-которые также пом-щики, отдавая на откупъ Жидамъ въ своихъ деревняхъ винную продажу, д-лаютъ съ ними постановленія, чтобъ ихъ крестьяне ничего для себя нужнаго нигд- ни у кого не покупали и въ долгъ не брали, какъ только у сихъ откупщиковъ, и никому*

*изъ своихъ продуктовъ ничего не продавали, какъ только симъ же откупщикамъ; а сіи, покупая отъ крестьянъ и продавая имъ втрое дороже и дешевле истинныхъ ц-нъ, обогащаются барышами и доводятъ поселянъ до нищеты, а особливо при возвращеніи отъ нихъ взаймы взятаго хл-ба: ибо ежели не съ сугубымъ превосходствомъ, то уже конечно должны отдать вдвое; кто жъ изъ нихъ того не исполнитъ, бываютъ наказаны. Такими-то и тому подобными узами (не говорю сего обо вс-хъ) отняты вс-способы у поселянъ быть зажиточными и сытыми.*

У якасці ілюстрацыі згадаем III раздзел з ідыліі “Нядзеля” У. Сыракомлі, які  называецца “Скаргі арандатара карчмы”. У выключна іранічным стылі і раскрываецца сутнасць праблемы. Маналог арандатара напоўнены *шчырым абурэннем* учынкам Янкі, які напіўся па-за межамі вёскі і тым самым аддаў плануемыя грошы, якія хацеў заграбсці карчмар, чужому. Рэфрэн “гвалт, ратуйце, рабуюць” падкрэслівае справядлівасць пратэсту шынкара,  што мае неаспрэчны кантракт, у якім на казённай паперы, у поўнай адпаведнасці з законам напісана: *ніхто, ні стары, ні малы, ні дзяўчына, ні хлопец – крый Божа! – нідзе выпіць не зможа, апроч гэтай арэнды* (7, 68).

Пан Голагардоўскі з рамана Ф. Булгарына “Иван Выжигин” будуе новую карчму на  самой мяжы сваіх уладанняў,  пад бокам пана Працэсовіча. Карчму называе “Рожон”, бо гэта будзе сапраўднае ражно ў вока ягонаму *любезному соседу*:

*– Я велю в этой корчме продавать водку гораздо дешевле, нежели она продается в корчме Процессовича, и таким образом переманю к себе всех его мужиков. Не правда ли, г. комиссар?*

*– Точно так, – отвечал комиссар. – Если он вздумает выгонять своих мужиков из моей корчмы, то я позову его в суд, на расправу за насилие. Не правда ли, г. пленипотент?*

*– Точно так, сущая правда, – отвечал поверенный. – Мы позовем его в суд уголовный, pro expulsione et violentia:* г. зн. у  пакаранне за гвалт і жорсткасць (75, 355).

Закон і грамадская думка былі цалкам на баку акцызнай мафіі. Невыпадкова Бальзак, які, як вядома, ажаніўся ў Расійскай імперыі, у слаўным Бердзічаве, пісаў:  *Я называю Россию автократией, держащейся на алкоголе.* Ён меў на гэта права, бо, паводле ўласнага прызнання, выпіў з сябрам сямнаццаць бутэлек віна

і пасля гэтага пайшоў у тэатр. Праўда, і браты-славяне не адставалі ад вялікага француза. Так, засталіся згадкі, што менавіта столькі пустых бутэлек з-пад “Гымзы” налічыла жонка народнага паэта пасля творчага візіту ў ягоную хату калегаў па цэху. Швейк хваліўся, што за адну ноч наведаў 28 піўных, але, слова гонару, нідзе не піў болей трох куфляў піва.

Прымусовая алкагалізацыя насельніцтва садзейнічала распаўсюджванню голаду і пастаяннаму недаяданню: *6-е, Къ вящшему жъ ихъ разстройству не токмо въ каждомъ селеніи, но въ иныхъ и по н-скольку построено влад-льцами корчемъ, гд- для ихъ и арендаторскихъ жидовскихъ прибытковъ продается по днямъ и по ночамъ вино. Сіи корчмы ничто иное суть, какъ сильный соблазнъ для простаго народа. Въ нихъ крестьяне развращаютъ свои нравы, д-лаются гуляками и нерад-тельными къ работамъ. Тамъ выманиваютъ у нихъ не токмо насущный хл-бъ, но и въ земл- пос-янный, хл-бопашенныя орудія, имущество, время, здоровье и самую жизнь.*

Гарэлку дастаўлялі непасрэдна дахаты, нібы цяпер піцу: *7-е, Сіе злоупотребленіе усугубляетъ обычай, такъ называемый коледа, посредствомъ коей, -здя по деревнямъ, а особливо осенью при собраніи жатвы, и напоивъ крестьянъ со вс-ми ихъ семействами, сбираютъ съ нихъ долги свои и похищаютъ посл-днее нужное имъ пропитаніе*.

Танная гарэлка выразна змяніла прыярытэты харчовых складнікаў: хлеб саступіў алкаголю. Невыпадкова лічылася, што толькі адно можа прымусіць мужыка не хадзіць у карчомку: зрабіць шынок у сваёй хаце. Сялянскія гаспадаркі масава разараліся, людзі ішлі ў свет, пра што пісаў Я. Баршчэўскі: *Не будзем жыці, Пойдзем блудзіці. Нет хлеба-солі, Нет шчасця-долі*.

Нічога не змянілася ў ХХ стагоддзі. Як і раней, прадукты пераводзяць на гарэлку. Вось што піша карэспандэнт “Нашай Нівы” пад псеўданімам *Будзски мужык: М. Буцлау, Вилен. губ. Вилейск. п. У нас кругом ёсць бровары щ м. Парафьянове Слотвинскаго, ў м. Бярэзоўцэ Свентарэцкаго, ў м. Буцлаве Оскерки, ў м. Илаве Окушки и ў Сивцы Домэйки. Для спирту патрэбна бульба, дык вось у нас скрось садзяць шмат гэтаго беларускаго «хлеба». Каб замест бульбы сеяли збожэ, тады можэ и жыто былобы таней. Але тут ничога не парадзиш: як*

*на бульбу ёсць на мейсцы купцы и за яе добра плацяць, дык кожны яе садзиць, каб мець набольшы даход. Беда, што идзе тольки на згубу людзей, да пицьця. За границай, у Францыи напрыклад, па вёсках спирт паляць у лямпах, ужываюць спиртавыя машыны (моторы) замест паравых, каб круциць малатарни, сечкарни и т. п. Спиртавыя моторы менш за паравые, ды надта простые и выгодные. А у нас спирт пакульшто прыносиць не карысць вёскам, а шкоду.*

Далейшыя запісы паказваюць адмоўныя прыклады, якія, на жаль, шчодра прадстаўляе рэчаіснасць: *У нас пьюць ўси: и старые, и малые, и хлопцы, и дзеўчата* (Наша Ніва, № 21, 7).

Гарэлка – гэта харч і лекі, якія змяняюць прынцыпы харчавання. Раніцай пасля застолля Спірыдон нават глядзець не можа на кавалак запляснелай каўбасы і скарынку зацвіўшага хлеба (апавяданне "Так і трэба ашуканцу" Якуба Коласа). І далей аўтар апісвае стан героя твора, які не можа есці: *У яго жываце было пуста, як у беднага гаспадара з засеку вясною, моташна, як у каталажцы*. Некалі А. Герцэн ва ўспамінах "Былое и думы" пісаў пра салдата, які выліваў атрыманую на паёк за некалькі дзён гарэлку ў місу, крышыў туды хлеб і лыжкай чэрпаў экзатычную страву. Прычым з вялікім задавальненнем. Адметны вопыт не згіне марна. Так, Мікіце Гузаку з "Аповесці" Л. Савёнка дактары забаранілі піць гарэлку, бо ад ненармальнага ўжывання алкагольнага пітва зусім пераблыталіся сэрца і печанцы, якіх нельга намацаць. Замест гэтага прапісалі дыету – тры разы на дзень есць толькі рэдкую страву. Вось чаму *Мікіта выцадзіў у міску паўлітра, пакрышыў хлеба і цыбулі ды чэрпае лыжкай, быццам зацірку* (45, 252). І лекі, хоць і дарагія, вельмі дапамагаюць: высербае міску дыетычнай стравы, ды адразу ад сэрца і адлягае.

Хаця сцвярджаецца, што чалавек, які знайшоў смак у гарэлцы, не будзе дэгуставаць пітво. Так, Я. Яўтушэнка ў рамане "Ягодные места" пісаў пра спецыфіку алкагольных прыярытэтаў сібіракоў. Аказваецца, цыбулінкі на языку, якія адказваюць за распазнанне смаку, надзвычай прытупляюцца моцнымі злоўжываннямі, што кардынальна мяняе зыходныя параметры ўспрымання і ацэнкі. Менавіта таму *беленькай* у іх называецца спірт, а чарнілам – усё, што ніжэй па градуснай шкале. А сухое віно з Малдавіі, якое

невядома якім бокам трапіла ў далёкі свет, лічыцца сапсаваным, бо вельмі доўга яго везлі. Аднак мясцовы люд п'е яго вёдрамі, ад чаго потым морда крывіцца – вось чаму і называецца гэты напой "косорыловка". Пра гэта ж гаворыць і Н. Гілевіч:

*Ты не зважай, што трохі шлакам*
*Ці дрывясінаю смярдзіць.*
*Народ не гоніцца за смакам!*
*Народ на градусы глядзіць.*

Сюды ж адносяцца "афарызмы" тыпу "ў віне галоўнае не букет, а забойчая сіла". Тым больш, што ў гэтым працэсе назіраецца выразная гендарная роўнасць, згадаем хоць гумарыстаў А. Аверчанку, гераіня гумарэскі якога піла *как лошадь,* і нашага Л. Савёнка. Яшчэ раней гэты тэзіс абараняў Янка Купала ў трагікамедыі "Тутэйшыя":

*Дама. (адпіваючы чарку) Але капітал ваш, мусье Зносілов, цудоўны – нічым амброзія.*

*Мікіта. Мадам-сіньёра, вы згадалі! Так яно і ёсць: самая натуральная амброзія знамянітай тутэйшай фірмы – а-ля самагонка, дастаўленая мне з вінных складоў "Пініп і К°"*. Трэба ацаніць станоўча і сацыяльную роўнасць, бо схільнасць да ўзбуджальных напояў характэрна прадстаўнікам усіх класаў: *После обедни наступил завтрак, или, лучше сказать, водкопой, потому что дамы очень мало ели, а мужчины более пили.*

Можа скласціся ўражанне, што нязменная радасць Русі – *пити-*, было спрадвечна характэрна і для беларусаў. Так, паводле запісаў сучаснікаў, на калядны стол князя 1780 года было дастаўлена 1500 бутэлек шампанскага, 300 рэйнскага віна, 200 бургундскага, 100 араку, 3 бочкі англійскага піва (73, 116).

Усё гэта прывяло да таго, што яда без гарэлкі нібы і не існуе, асабліва падчас святаў і ўрачыстасцяў. Вось якой бачыць гісторыю нацыянальнай кулінарыі Л. Савёнак: *Там ладзілі ігрышча, елі дзікіх кабаноў, запівалі брагай (нешта падобнае да самагону мазырскай гонкі), скакалі дрыгавіцкую лявоніху, тут жа і жаніліся на вольным паветры*.

Тут пісьменнік жартаўліва інтэрпрэтуе нібыта летапісныя звесткі, свядома парадзіруючы нібыта гістарычныя дакументы. Аднак падобныя існавалі на самой справе. Так, А. Мальдзіс,

сабраўшы звесткі з мемуарнай літаратуры XVIII ст., сцвярджае: *тагачасная шляхта піла часта і многа. У пачатку стагоддзя раскашаваліся традыцыйным "пітным мёдам" – простым "ліпцом", моцным "паўтараком", "вішнёўкамі" і "малііннікамі", для выхабу якіх бралі палавіну мёду і палавіну ягад. Потым ва ўласных броварах сталі гнаць гарэлку. Жытнёвая, паводле Ходзькі, называлася "хлебам штодзённым", пшанічная – "хлебам святочным". Сырэц пераганялі ў кубах ("алембіках") з рознымі карэннямі, травамі і ягадамі і такім чынам атрымоўвалі анісаўку, кмяноўку, палыноўку, цынамонаўку, настойку на персікавых костачках. З завозных гарэлак найбольш цанілі фруктовую ратафію і настоеную на карэннях крамбамбулю.* Пілі іх маленькімі кілішкамі, закусваючы пернікамі або варэннем. Настойкамі захапляліся не толькі мужчыны, але і жанчыны: *Яны часта хадзілі ў аптэчку і там, заліваючы млосную поліўку гарэлкай, часта станавіліся рознымі ведзьмамі, дзівачкамі, хімерычкамі і агністымі п'яніцамі.*

Пра разнастайнасць выбару сведчыць А. Кіркор: *Нигде не было такихъ старыхъ винъ, медовъ и водокъ, а также различных наименований настоекъ и наливокъ, какъ вообще въ іезуитскихъ и въ особенности въ Полоцкой академии* (79, 324). А вось што піша Фадзей Булгарын: *Ужин был столь изобилен и роскошен, как и обед, только попойка приняла другой оборот. Почти все гости перепились до последней степени. При знаменитом тосте: возлюбим друг друга (Kochaytysię!) – гости пили полную чашу, стоя один перед другим на коленях или обнявшись. Наконец обратились к дамам и начали пить за здоровье каждой из них, из их собственных башмаков* (75, 361).

Беднякі знаходзілі ў гарэлцы надзейнага памочніка ў барацьбе з голадам. Сучасныя дыетолагі сцвярджаюць, што 100 грамаў гарэлкі мае 235 калорыяў, а 100 грамаў мяса – 250.

Тым болей, што спірт і вытворныя дзейнічаюць на галоднага зусім не так, як на сытага. Сведчанне таму прыклад, які прыводзіць А. Салжаніцын. Галоднаму *каважединцу,* які не ідзе на супрацоўніцтва са следствам і не падпісвае неабходныя паперы, даюць багатую ежу і падсоўваюць алкаголь: *все пройдя, выпил вино, в приятном опьянении подписал – и был расстрелян. (Три дня голодному что такое единая рюмка! а тут графин).* Вось да

чаго прыводзіць разавае атручанне арганізму. Што ж тады ґаварыць пра сістэматычныя злоўжыванні, калі алкаголь становіцца неад'емным чыннікам працэсу стрававання? Замена хлеба гарэлкай вядзе да дэградацыі нацыі, што і назіраецца ў апошні час. Разам з тым, як сведчаць факты, у XX стагоддзі беларусам было яшчэ вельмі далёка да таго, каб стаць першымі п'яніцамі ў свеце, як тое здарылася, паводле СААЗ, у 2014–2015 гадах. А. Карпюк у перадсмяротных успамінах "Развітанне з ілюзіямі" піша:

*Землякі мае, а як жа, выпівалі – на Каляды, Вялікдзень, Сёмуху і Новы год. Выпівалі яшчэ на хрэсьбінах ды вяселлях. І пілі толькі кілішкамі.*

*Хутчэй можна было спаткаць іншапланецяніна ў жніво, сенакос, чым выпіўшага!* Пра гэта гаворыць і паданне – быль "Добры Якаў" невядомага аўтара:

*Вось на вяселлі пры паляках*
*Адною чаркай па чарзе*
*Паўскрыня "вудкі" ўсе піякі*
*І госьці ўпіваліс ўсе.* (98, 316)

Можа гэта тлумачыцца тым, што ў 1935 годзе літр гарэлкі "Люксусовой" каштаваў тры пуды жыта, таму купіць яе мог далёка не кожны (15, 13). Аднак усё хутка памянялася. Як працягвае далей А. Карпюк, *прыезджыя* (маецца на ўвазе савецкая ўлада ў 1939 годзе ў Заходняй Беларусі) *напоўнілі адразу магазіны скрынямі з таннай гарэлкаю, прывезлі звычку піць шклянкамі ды ў любы дзень, як і ў кожную пару года* (99, 372–373).

Мяняліся і традыцыі закускі алкаголю. Народны паэт згадвае: *Калісь да гэтай самай "рускай" – быў селядзец у нас закускай – салёны, з бочкі, селядзец*. Пра гэта піша Ф. Булгарын, Зм. Бядуля. Калі Андрэй трапіў на неба і яго пасадзілі сярод святых, то на пытанне, чаго ён хоча, заявіў: *Загадай, каб яна кожную раніцу давала мне гарэлкі і селядзец…*

Але тучныя годы адыходзяць, таму і мары мізэрнеюць: *Народ усмак цярэбіць кільку, народ не просіць селядца*.

У мінулыя часы героі твораў беларускіх пісьменнікаў яшчэ закусвалі. Згадаем Х1Х стагоддзе, паэму "Энеіда навыварат":

*Па шклянцы выпілі сівухі,*
*Паелі нашча саладухі,*
*Камоў з смятанай і глазухі…*

Тады існаваў яшчэ адпаведны рытуал, бо нават на небе яго выконваюць, як у паэме "Тарас на Парнасе":

*Тады праворна дзеўка Геба*
*Гарэлкі ў чарку наліла*
*І, як жарон, буханку хлеба,*
*Прынёсшы, – бразь! – сярод стала.*

У прозе Якуба Коласа яшчэ бяруць нешта на зуб: *Тым часам Шварц прынёс кварту, дзве чаркі і два селядцы на талерцы* (4,149). Амаль тое самае бачым у А.Гаруна: *Ўзялі кварту. На закуску Пару ўзялі тараноў*; і далей *Больш пілі дзядзькі, чым елі: Квас, гарэлку, піва, мёд* (100, 89–90).

А вось касец з аднайменнага верша Якуба Коласа ўжо ігнаруе рытуал: *без закускі п'е Пятрусь – галаву задраў, замёр.*

Адыходзяць у мінулае інтэлектуальныя дыскусіі наконт культурнага піція. *Холодными закусками и супом закусывают только недорезанные большевиками помещики. Мало-мальски уважающий себя человек оперирует закусками горячими,* – сцвярджаецца ў "Собачьем сердце" М. Булгакава. Цяпер векавая традыцыя ўжывання алкаголю адбываецца без усялякіх цырымоній, закусваць ніхто не збіраецца: *Снайпер Іван выпіў тыя поўшклянкі адным спраўным глытком, заядаць не стаў, узяў са стала пачак "Прымы."* Герой твора А. Федарэнкі яшчэ шыкуе: *Выпіў шклянку віна і з'еў тры сырыя яйкі* (41, 30). Нават пісьменнікі, духоўныя павадыры нацыі, не адстаюць ад народу:

*Затое ў будане Астрэйкі*
*Не моўкла позна гамана:*
*Каністра – гары, кус – карэйкі*
*Ну, і цыбуліна адна? (101, 34)*

А вось як памінаюць адышоўшых у лепшы свет творцаў. Паколькі на могілках звычайна бяруць памінальную чарку, то іх цяперашнія нашчадкі не парушаюць традыцый. Згадвае сучасны літаратар: *Мы таксама прымасьціліся побач з Паўлюком Трусам*

*і Кузьмой Чорным і расклалі сваю няхітрую закуску – парэзанае сальца, хлеб – і пачалі памінаць лепшых сыноў Бацькаўшчыны* (102, 117).

Для абгрунтавання зыходных тэзісаў згадзіцца ўсё, нават інтэрпрэтацыя неабвержных ісцін: *Хто не працуе, той і не есць. Вось чаму нашыя менш ядуць, а больш налягаюць на пітво* (45, 257).

А вось апісанне "банкету" ў апавяданні В. Быкава "Народныя мсціўцы": *На засланай газэцінай стале валяліся калівы сарванай з градкі цыбулі і стаялі дзьве шклянкі. Бутэльку, вядома, яны засьцярожліва пасьпелі прыхінуць у траву побач (103, 279).*

Гэта раней існавалі цэлыя абрады, звязаныя з выпіўкай. Так, герой глобусаўскай *казкі для дарослых* № 58 "Людажор", выпіўшы віскі, прагне не менш экзатычнай ежы. Калі яму хацелася закусіць, жор нябожчыкаў выбіраў смачных дзяўчат, адкусваў грудзей смочкі, жаваў, глытаў і запіваў алкаголем (104, 951). XXVIII раздзел рамана У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" называецца "Ежа для мужчын". У якасці эпіграфа да яго ўзяты словы з нібыта "Статуту сакольнічага шляху": *Хто не есць свежага мяса і не п'е свежай крыві – таго паляўнічага класці і абрацыю з бляхамі або і нагаем добрым сыпаць у тое самае месца, каб ведаў і прывучаўся*.

Ежай для мужчын з'яўляецца і адметна падрыхтаваная каніна: *Сын дастаў потнік са спіны свайго ўспененага каня, дастаў з-пад сядла тонкі і вялікі, далоні на чатыры, скрыль сырога цёмнага мяса. Працягнуў… Каніна была смачная. Уся змачаленая і адбітая за дзень скачкі, цёмная ад добрага конскага поту і прапахлая ім. Няма на свеце лепшага паху, чым пах конскага поту, гэта ведаюць усе… Хан еў* (105, 280).

Цяпер нарадзіліся новыя звычкі літаратурных герояў: *На стале дзве пустыя і не зусім чыстыя шклянкі, паўслоіка кіслай капусты, дробна парэзанае і тонкае, бы з недакормленай кепскім гаспадаром свінні, сала, без скуркі. Закусь ляжыць на паперы, чыстай, бялюткай з гэтага боку, а з другога – каляндар, калі сеяць і жаць. Бутэлька гарэлкі на падлозе ля бульбачкі* (106, 83).

Ад літаратуры не адстае і выяўленчае мастацтва, у якім кардынальна змяніліся нават нацюрморты. Ніякага параўнання з класікай, успомнім хоць баль жыцця на палотнах Хруцкага.

На цяперашнім нацюрморце ў цэнтры графінчык або нават звычайная пляшка гарэлкі – хранограф часу, чорны хлеб (паўбуханкі), сала, цыбуля (абавязкова), часнык (рэдка), стакан (напалову налiты), салёныя гуркі, зрэдку чырвоны горкі перац. Гэта заўважна нават у назвах: “Нацюрморт з сялёдкай” А. Шумаковай; “Добра сядзім” У. Капылова; “Кілька ў таматным соўсе” М. Мазура (да звычнай бутэлькі далучана кансерва, пачак “Прымы”); “Праўда” (на славутай газеце да джэнтэльменскага набору далучаны кавалак сала і тры вараныя бульбіны). *Мёртвая прырода* ляжыць на стале, на табурэціку, нават на капоце “Мерсэдэса”, але змест не мяняецца, толькі гарэлка крыху даражэйшая.

# 5 SINE CERERE ET LIBERO FRIGET VENUS

*Любовь и голод правят миром – это самый правдивый и уместный эпиграф о бесконечной истории страданий человека.* Хай словы М. Горкага да рамана “Жизнь Клима Самгина” застануцца эпіграфам і да гэтага раздзела, бо згаданы спрадвечна-ўніверсальны закон з аднолькавым поспехам дзейнічае і ў палацах, і ў халупах. Так, разбэшчаная графіня ад дзікага сексуальнага голаду згвалціла падлетка Ніцшэ, што, паводле прызнання вялікага мізантропа, кардынальна змяніла ягоныя адносіны да сэксу і яды. Наогул, сытаму не месца ў краіне мастацтва і навукі: Plenus venter non studet libenter. Паэт, які марыць аб славе, павінен быць закаханым і галодным, – сцвярджаў Байран. Зусім як у “Рамансе” Балеслава Лесьмяна:

*І яна яму ўважна ўсю ноч падавала*
*То пяшчоту, то вусны, то хлеба кавалак.*

*Так адно аднаго пад азораным небам*
*Частавалі яны то пяшчотай, то хлебам.*

*Так яны насычалі да самага раньня*
*Голад першы, жабрацкі, і голад – каханьня.*

*Дык ці ўцяміў, паэта, як жыць табе трэба?*
*Маеш голады два… ні дзяўчыны, ні хлеба. (107, 7)*

Калі ж знікае хоць адзін са складнікаў сусветнай гармоніі, то ідэальная карціна быцця цямнее і паступова раствараецца ў змроку часу. Герой Гамсуна гаворыць: *Ах, в настоящее время у меня не было ни малейшей охоты,… девушки стали для меня почти как мужчины: нужда иссушила меня.*

Ва ўсіх класічных творах, што апісваюць сексуальны акт, мілосным гульням заўсёды папярэднічае багатая і шчодрая вячэра. Згадаем Апулея з яго “Метамарфозамі”, “Дэкамерон” Дж. Бакаччо, “Тысячу і адну ноч”. Фаціда, служанка са славутага твора Апулея, абяцаючы Луцыю насалоду і ўцехі, раіць таму ісці ў пакой і сабрацца з сіламі, *бо я ўсю ноч буду з табой змагацца.* У адказ узбуджаны каханак перадае ёй свініну, пяць куранят і вялікі збан добрага дарагога віна і абвяшчае: *Вось і Лібёр,*

*узбуджальнік Венеры і яе збраяносец, прыбыў. Сягоння высмакчам да дна гэта віно, каб яно прагнала сарамлівую слабасць і прыбавіла жаданай вясёлай сілы. На судне Венеры толькі такія патрэбны запасы, каб на бяссонную ноч хапіла* (108, 114–115).

Гэта заўважна і ў нацыянальнай традыцыі. Багі ў паэме "Тарас на Парнасе" пасля добрай выпіўкі і закускі пачынаюць спяваць непрыстойныя прыпеўкі і чапляцца да дзевак. У паэме А. Шушкевіча "Сцяпан і Таццяна" (1889) гераіня, дачакаўшыся таго, каго чакала, пачынае ладзіць вячэру:

*Лучыну хутка запаліла,*
*У кухню збегала, адтуль*
*Абрус прынесла, стол накрыла,*
*Дастала з скрыні сухіх дуль,*
*Арэхаў трошку, сыра, сала,*
*Калач пшанічны, гарадской. (85, 583)*

Сцяпан дастаў пляшку гарэлкі з халявы бота: *Калі галоўку нам закруце…, смачней затое будзем спаць*.

У "Запісках Самсона Самасуя" А. Мрыя амаль у раблезіянскім стылі паказана падрыхтоўка і гераічны выхад інтэлігенцыі Шапялёўкі на ўлонне прыроды. Не саступае яму і ўвасабленне працэсу паядання і выпівання жыхарамі слаўнага мястэчка велізарных запасаў харчоў, пасля чаго парачкі, рассыпаўшыся па лесе, спрабуюць дабраць яшчэ па кроплі і той, забароненай, асалоды: *Мужчыны шмат пілі гарэлкі і моцнай густой, як суроп, цягучай настойкі, замацаванай гарэлкай. Дзве-тры шклянкі апошняй дзіўны настрой выклікалі ў мяне. У сваіх мускулах я заўважыў нейкую тэхнічную адсталасць: з'явілася нястрыманае жаданне прыхіліцца да пляча Крэйны, захацелася, як жывёліна, глядзець у яе бяздонныя вочы, узяць яе мікраскопныя рукі ў свае і гладзіць дзяўчыну, як курачку-натапурачку; хацелася спяваць ёй гімны, упрыгожыць яе чало ружамі, ускінуць ёй на плечы шаўковыя тканіны і замацаваць уладу над ёю моцнымі пякучымі пацалункамі. Бачачы мае электрыфікаваныя вочы, Крэйна адхілялася ўбок і частавала мяне:*

– *Ежце, ежце, а то нічога не будзе!* (49, 55–56)

Не менш энергічныя і героі твораў Л. Савёнка. Пасля сходу настаўнік і старшыня перайшлі ў школу, дзе была запёрта

дзяўчына, дасталі самагонку, пілі, скакалі, там жа і жаніліся на школьнай лаўцы. У іншым творы героі дзейнічаюць паводле звыкла-традыцыйнага сцэнрыю. З’еўшы да костачак гусакоў, тлустых, тучных гусакоў з яблыкамі, а таксама рыбы і ікры, госці *выпілі па другой, па трэцяй, другую бутэльку… чацвёртую. Гутарка ажывілася. Гаспадар падсеў да бухгалтаравай жонкі і пачаў яе шчыпаць за сцечнякі. Бухгалтарша пішчэла і, бліжэй тулячыся да гаспадара, казала: “Ах! Астафце!”* (45, 40).

Пітво без ежы дзейнічае зусім адваротна. Так, Чэсін з апавядання А. Асташонка “Знос” *п’е ж, наркот, адзін, абы ў маўчанні замуцілася, а каб з людзьмі пагаманіць за выпівонам, дык інтарэсу не мае. П’е ды дрыхне, у качагарцы лямку адцягнуўшы, нават з бабай сваёй не спіць. Сам расказваў, як яе да ветру адпраўляе, калі прыстае – гэта каб расхацелася* (109, 31).

Толькі наіўны рамантык не ведае рэчаіснасці і дзейнічае зусім не так, як трэба. Згадаем героя твора Ул. Сыракомлі, які замест хлеба прапануе каханай пяшчоту:

*Уранку – вяночак да твару,*
*У абед – ціхі ўсплiск ручаіны,*
*Увечары – спеў салаўіны,*
*А ночкаю – узнёслыя мары. (7, 20)*

Ці доўга пратрымаюцца падобныя залёты? Невядома. Але фінал іх прадказаць нескладана, бо да гэтага стану свядома прыходзілі людзі, што імкнуліся пазбегнуць спакус свету: *Первые христиане рекомендовали воздержание от вина и мяса, как ради покаяния, так в особенности ради подавления стимулов, толкающих к плотскому греху*. Пра гэта ж напісана ў старабеларускай эпіграме «На чревоугодных»:

*Хитро дявол половил тых, угодных собе,*
*Храняше на згубу своей старой злобе*
*За пост на распутность подает им волю*
*Блуди, мовить, якъ хоч, на то я позволю. (110, 205)*

Сярод сямі смяротных грахоў суседнічаюць два – *чревоугодие и плотский грех* (bornification). Апошні ўзнікае ад празмернага аб’ёму ежы: *Живот, набитый всякого рода пищей, рождает похоть. Пост – средство избегнуть его. Пост побеждает страсть.*

*Пост спасает от полового греха и нечисти.* Маісей перад тым, як узыйсці на гару Сіён і прадстаць перад Лікам Госпада, галадаў сорак дзён. Галадаў Буда, Хрыстос, Заратустра. Кірыла Тураўскі жыў толькі з хлеба і вады, інакш не стаў бы стоўпнікам.

Гэтую ж адметнасць падкрэслівалі даследчыкі ранняга хрысціянства, характарызуючы першых адэптаў новага вучэння: *Как и большинство жителей Востока -ли они мало, что уже само по себ- поддерживало въ нихъ экзальтацію* (111, 112–113). *Новые сектанты, какъ вс- вообще вели аскетическую жизнь строгих постников.* Пра гэта гаворыцца ў "Евангеллі" (Лукі: 2, 37; II-е къ Коринф: 6, 5; 11, 27).

Вось як апісвае стан героя пасля доўгага галадання З. Бядуля ў апавяданні "Вялікі пост": *Дайшло гэта ў Лявона да нейкай асобнай кемнасці, зрабіўся як непрытомны, разгарачаны. Увесь высах, як шчэпка; яшчэ болей пабялелі яго белыя валасы, яшчэ болей ускалмаціліся, яшчэ болей падаўжэлі. У бліскучых вачах пылаў таемны агонь здаволення і асалоды ад заўсёдашніх адкрыццяў і ад цікавасці яшчэ больш адкрыць...* (32, 69). Бляск вачэй Лявона паказвае, што ён дакрануўся да нейкай таямніцы. І ён не асуджаў тых, хто не пасціўся, а пазіраў як на нешчасліўцаў, далёкіх ад раю і бога. Лічыў сябе грэшнікам, бо не мог вытлумачыць сэнс гэтай вялікай рэчы.

Хаця адмова ад мяса і віна, як і ад усяго, што абуджае схільнасць да палавых кантактаў, лічылася неабходнай умовай з часоў Піфагора: *О том же свидетельствуют некоторые социальные методы борьбы с «половым соблазном», издавна практиковавшиеся и практикующиеся людьми, которые на основании житейского опыта знают о депрессировании голодом половых импульсов и рефлексов. Я имею в виду прежде всего те методы борьбы с половым грехом, которые практикуют аскеты. Основной рецепт их на этот счет гласит: "Изнуряй свою плоть постом (т. е. голоданием) и молитвами"(12, 184).* Пра гэта пісаў М. Мантэнь: *Кому требуется освободить свое тело от бремени естественных надобностей и ничего больше не нужно, тому незачем угощать другого столь изысканными приправами; это не пища для утоления лютого и знающего удержу голода.*

Лічыцца, што ўзаемадзеянне голад → секс адбываецца па вельмі складанай сістэме. Так, *Все эти эффекты голодание*

*производит двумя основными способами: 1) "лобовой атакой", прямо подавляющей половой аппетит и половые рефлексы, 2) "тихой сапой", т. е. путем медленного истощения организма, изменения секреторной деятельности половых желез, изменения состава крови и постепенного ослабления полового аппетита и половых физиологических процессов* (12, 200). Якія оргіі могуць пачацца пасля такой цнатлівай вячэры патэнцыяльных каханкаў: *Васіль паслухаўся, але без ахвоты. Ён прынёс ад свайго воза паўкаравая хлеба, брусок сала і жменю зялёнай цыбулі, паклаў на разасланую перад Ганнай хустку.* Аднак вельмі хутка мілосная вячэра скончылася:

*Услед за ім выцер рукі аб штаны і Васіль.*

*– Шчэ еш, – сказала Ганна. – Ты ж не пад'еў.*

*– Не, хопіць…*

*– Нясмачная, можа, картопля?..*

*– Картопля як картопля…*

На якія грахі можа падбіць падобная вячэра? Хіба толькі адновіць патрачаныя за доўгі рабочы дзень сілы.

Голад становіцца прычынай трагедыі закаханых з аповеду Э. Ажэшкі "З гадоў голаду", які пераклаў на беларускую мову А. Гурыновіч. Ганна топіцца ў рэчцы, а Васілёк памірае ад недаядання па дарозе. Твор выключна сентыментальны, але апісанні пачуццяў маладых людзей, якія ідуць на ўсё, каб выратаваць сваё каханне падчас мору, надзвычай уражваюць: *Гэта ж то мужыцкія міласці, надзеі і думкі! Двое людзей у вёсцы закахаліся і строілі сабе шчаслівую будушчынасць, прыйшоў голад, і па двух жывушчых, поўных здароўя, сіл і надзеі, людзях на вясковым магільніку засталіся дзве магілкі* (85, 511). Гэта нібы ілюстрацыя да тэзіса У. Караткевіча: *І на дзіва мала ў той год нарадзілася дзяцей, можа таму, што быў голад і пошасць*. Л. Арабей у "Нашай ніве" (08 ад 25 ліпеня 2015 года) незадоўга да смерці вяртаецца да матыву голаду: *Сорак шосты год мінулага стагоддзя. Нядаўна скончылася вайна, а мы – студэнты першага курса філфака БДУ – усе худыя. Сярод няма ніводнай тоўстай, мы не ведаем слова "дыета", не ведаем, колькі кожная з нас важыць, нам гэта не цікава, у нас няма клопату – гэта можна есці, а гэта ня можна, было б толькі што есці. Мы вельмі адрозніваемся ад сучасных дзяўчат, у якіх*

*адна праблема – як пахудзець*. Маладзенькія дзяўчаткі інтуітыўна адчуваюць: каб выканаць сваё асноўнае жыццёвае прызначэнне, яны павінны быць сытымі.

Тым болей – хто як есць, так і займаецца сексам. Гэтую народную выснову добра разумее Хрысця ў рамане В. Адамчыка "Чужая бацькаўшчына": *Мужчыны, сцішыўшыся і моцна сёрбаючы, пачалі есці. Маладзіца бачыла, як у Імполя варушыліся сківіцы. Яна глядзела на яго гладкі карок, на закручаныя ў патыліцы валасы, на яго шырокія плечы, на якіх не сыходзілася тонкая паркалёвая рубашка, і падумала, што вот добра, што ён наняўся малаціць, і нават убачыла, здалося ёй, як ён сціснуў бы яе гэтымі дужымі рукамі і яна не вырвалася б* (112, 20).

Яна ж хавае кавалак сала, каб потым перадаць маладому малацьбіту. І старэйшы сябра Імполя адразу падкрэслівае, што ля такой маладзіцы без сілы не абыдзешся.

Герой твора Адама Глобуса, сына Вячаслава Адамчыка, заказвае сырнікі са смятанай, бо пачуў недзе, што смятана станоўча ўздзейнічае на патэнцыю: *Зашпіліўшы прарэху, я адчуў голад. Захацелася есці па-сапраўднаму, да вуркатання ў вантробах, да ваніткага падсмоктвання ў падстраўнікавай залозе. І згадалася натуралістычная прыказка: кішкі марша граюць.*

Міжволі згадваюцца жарабкі амаль забытага Шчукара з "Паднятай цаліны" М. Шолахава, што ад голаду і цяжкай працы не глядзелі на кабыл. В. Шаламаў падкрэсліваў, што *алиментарная дистрофия была постоянным союзником, могучим союзником власти в борьбе с человеческим либидо*. Герой згаданага рамана С. Пясецкага застыў ля вітрыны з дарагой жаночай бялізнай. Ён глядзіць на дамскія панталоны – штандар цывілізацыі, на іх каляровыя банты, на хвалю карунак. Лыкае сліну, чуючы голад. Таму яго цікавіць толькі кошт прадмета раскошы і колькі можна купіць на гэтыя грошы хлеба? Затое з якой жарсцю кідаецца мапасанаўскі Рандэль на малочніцу пасля таго, як пазбавіўся асноўнага голаду.

*Как правильно замечает Л. И. Петражицкий, «половое возбуждение (возбуждение полового нервного центра. – П. С.) направляет запасы крови и вообще жизненную энергию организма в противоположную (по сравнению с голодом) сторону. Совсем "посторонние" в области действия голода органы*

*приобретают теперь роль главных и специальных органов моторного возбуждения, являются местом усиленного притока крови и т. д. Напротив, слюнные железы, крайне важные органы в области питания, теперь приобретают характер совершенно посторонних органов и получают, так сказать, временную отставку, тем более решительную, чем сильнее позыв полового возбуждения (отсюда – пересыхания горла, губ, хриплость голоса вследствие ненормальной сухости голосовых связок и т. д.)* Згадаем класічнае: *Язык мой адняўся, я сліну глытаў.* Якуб Колас дасканала перадае змены ў арганізме закаханага хлопца. Галоўны герой славутага рамана польскага пісьменніка Т. Новака "А як каралём, а як катам будзеш" папракае сваю каханку Хелі: *Мне зноў захацелася піць. Сушыць мяне поруч з табой, дзяўчына.* Паэты раней за вучоных сфармулявалі закон кругазвароту энергіі ў закаханай асобе. *Таким образом, возникает конкуренция этих претендентов на один и тот же объект – организм. Начинается их борьба друг с другом, в результате которой один из них должен быть подавлен и на время исключен. Субъективно эта несовместимость их проявляется в несовместимости сильных ощущений пищевого и полового аппетита. При наличии сильного чувства голода исчезает ощущение полового аппетита, и наоборот. Перед нами как будто механизм с двумя клапанами: когда нагнетается пищевой голод и открывается клапан пищевого голода-аппетита, клапан полового возбуждения закрывается, и наоборот.*

У мастацкай традыцыі спатканні закаханых часцей за ўсё адбываюцца на фоне маляўнічай прыроды. Згадаем славутую "Сунічную паляну". Зусім у іншай танальнасці апісана сцэна збірання ягад змучанымі каханкамі ў "Альпійскай баладзе" В. Быкава. Хаця ягадамі ніяк не адновяць свае сілы ні Іван, ні тым больш Джулія, якая прызнаецца, што больш любіць біфштэкс і, смеючыся з падказкі беларуса, макароны.

Толькі зрэдку ў двубоі адвечным перамагае голад цела. Вось як Дж. Лондан характарызуе стан героя аповесці "Белы клык": *Сейчас им владела любовь – чувство еще более суровое и жестокое, чем голод.* Нельга стрымаць прылівы жарсці. *Кашчэі кашчэямі – і ўжо за дзеўкамі гарцуюць,* – усклікае бабця адважных герояў І. Сяркова, здзіўленая тым, што галодныя ўнукі

цікавяцца дзяўчатамі. Рафініравана-інтэлігентны М. Прышвін стаіць перад дылемай: *Любовный голод или ядовитая пища любви? Мне досталось пережить голод*. Але рэальны, фізіялагічны голад будзе заўсёды дамінаваць над голадам сексуальным, кніжным, інфармацыйным, сенсорным. М. Ліфшыц сцвярджае, што *все стихи М. Цветаевой послереволюционного периода – это прежде всего стихи голодного человека. Голодного – физически. А уже потом – голодного до любви, дружбы, общения, понимания и т. д.*

Паводле кулінарных схільнасцяў літаратуры можна смела казаць пра стан народа, якому яна належыць. Калі іх няма, то няма і народа. Гэта вельмі добра разумелі дзеячы культуры, якія не толькі апісвалі голад у творах мастацтва, але і самым непасрэдным чынам далучаліся да стварэння нацыянальнай гастранамічнай культуры. Так, вялікі рамантык Шэлі, які жыў, здаецца, у нябёсах, напісаў памфлет “У абарону натуральнага харчавання” (*1813 г.).*

А. Дзюма на працягу доўгіх гадоў з апантанасцю ствараў не менш славуты, чым ягоныя раманы, энцыклапедычны “Вялікі кулінарны слоўнік”, які карыстаецца папулярнасцю да гэтага часу. І цяпер прадаецца ў беларускіх крамах.

На Кубе падаюць 10 рыбных блюдаў a la Heminguej, рэцэпт якіх быццам узгоднены з вялікім Хэмам і створаны пад ягоным патранажам.

Італьянскі шэф-кухар Антоніо Карлучы выдаў кнігу “Паста і опера”, дзе падаў 17 рэцэптаў страў, і прыклаў дыск, на які запісаў славутыя італьянскія оперы. Таксама 17 – па адной на кожную страву. Варыць канкрэтнае блюда і, тым больш, есці яго неабходна пад канкрэтную музыку: толькі ў такім выпадку яны набываюць неабходны смак. Дайшло да таго, што нават паасобныя санеты У. Шэкспіра (у прыватнасці 75, 118) лічаць кулінарнымі, бо там каханне параўноўваецца з прыправамі да ежы. У 2003 годзе ў Маскве выйшаў *эротический кулинарный путеводитель по странам и континентам* “Любовь и голод” (аўтары Т. Соломник, И. Лазерсон, С. Синельников).

Наіўнымі выглядаюць спробы Л. Савёнка, які некалі пісаў “Дзённік “любителя покушать”. Сёння тэлебачанне запоўнена праграмамі, дзе зоркі і тыя, хто лічыць сябе імі, паказваюць, як

трэба варыць есці. Прычым настолькі масава, што калі раней ежа была прыдаткам да гаворкі пра літаратуру, то цяпер сталася зусім наадварот. І вось ужо ва ўсім свеце складана знайсці буйны горад, дзе не быў бы рэалізаваны модны праект “Кніга + кава”. Цяпер, бадай, нікога і не здзівіш кнігарняй, дзе вам прапануюць кубачак арабікі і шакаладны кекс.

Гэта стала для многіх натуральным, але можна пайсці і далей. У моду ўваходзяць кнігарні, паліцы якіх запаўняюць выключна кулінарныя кнігі. І бонусам ужо служыць не проста маленькая кавярня з кавай і выпечкай, але і такая, дзе можна пакаштаваць любую страву са старонак прадстаўленых у асартыменце крамы кніг. Зразумела, што шэф-повар установы дае майстар-класы і вучыць ахвочых самастойна гатаваць стравы.

Сёння ў гэтай сферы найчасцей абмяркоўваецца лонданскі магазін Books For Cooks (Кнігі для кухараў) і сінгапурскі 25 ºC. І калі з назвы першага відавочна, што ён мае такую вузкую спецыялізацыю, то загадку другога не так проста разгадаць кнігалюбу, пакуль яшчэ не абазнанаму ў мастацтве кулінарыі. Уладальнікі гэтай незвычайнай кнігарні тлумачаць свой палёт фантазіі так. Па-першае, тэмпература мае вялікае значэнне для правільнага прыгатавання страў. А лацінская літара “С” азначае не толькі прыняты спосаб вымярэння тэмпературы, але і працэс прыгатавання страў (Cooking), кулінарыю (Culinary), шакалад (Chocolate), торты (Cake), вішню (Cherry), каву (Coffee). Лічба ж 25 – не толькі тэмпературны складнік назвы, але і адрас крамы – Keong Saik, 25.

А студэнты з Браціславы не так даўно злучылі кнігарню, кавярню і… канферэнц-залу. Атрымаўся выдатны культурны цэнтр Alexis, дзе праводзяцца разнастайныя паказы, чытанні, семінары, канцэрты. Словам, можна знайсці яшчэ тысячу і адзін спосаб продажу эмоцый, а значыць, казцы з назвай “Кніжны свет” не будзе канца (113, 12). Галоўнае – пазбыцца апекі валадара над усім.

# ЛІТАРАТУРА


1. Ги де Мопассан. Полное собрание сочинений в 10 т. Т. 6. – М., 1958. – 447 с.

2. Роттердамский, Эразм. Похвала глупости: Сочинения. – М., 2000. – 622 с.

3. Бядуля, З. Збор твораў : у 5 т. Т. 4. Кн. 1. – Мінск, 1987. – 375 с.

4. Мишель, Монтень. Опыты. Избранные произведения : в 3 т. Т. 2. – М. 1992. – 560 с.

5. Плутарх. Избранные жизнеописания : в 2 т. Т. II. – М. 1987. – 608 с.

6. Беларускія летапісы і хронікі. Баркулабаўская хроніка. – Мінск, 1997. – 432 с.

7. Сыракомля, У. Добрыя весці: Паэзія, проза, крытыка / уклад. і камент. У. Мархеля, К. Цвіркі; прадм. К. Цвіркі. – Мінск: Маст. літ., 1993. – 526 с.

8. Андреев, Л. Пьесы. – М., 1991. – С. 349.

9. Ластоўскі, В. Выбраныя творы. – Мінск, 1997. – 512 с.

10. Достоевский, Ф. М. Полное собрание сочинений. Т. 14. – Ленинград, 1976. – 511 с.

11. Лондон, Дж. Повести и рассказы. – Минск, 1988. – 686 с.

12. Сорокин, П. Голод как фактор. Режим доступа: http://www.e-reading.club/bookreader.php/1027950/Sorokin_–_Golod_kak_faktor.html

13. Янушкевіч, Я. За архіўным парогам: Бел. літ. XIX–XX стст. у святле арх. пошукаў. – Мінск: Маст. літ., 2002. – 381 с.

14. Гарэцкі, Г. Выбранае. – Мінск, 2002. – 629 с .

15. Танк, М. Збор твораў : у 6 т. Т. 6: Дзённікі; Літаратурна-крытычныя артыкул. – Мінск, 1981. – 637 с.

16. “Не наракаю на долю…” – гутарка Пятра Краўчанкі з Натальляй Арсеньневай. Дзеяслоў, № 10(3) / травень–чэрвень / 2004.

17. Сяднёў, М. Масеева кніга: Успаміны, старонкі дзённіка, эсэ. – Мінск, 1994. – С. 311.

18 Маньковский, В. К вопросу о голодании. – Спб., 1882. – С. 48.

19 Гарэцкі, М. Збор твораў : у 4 т. Т. 1. Апавяданні. – Мінск, 1984. – 446 с.

20 Лифшиц, Юрий. Марина Цветаева и голод // Международный интернет-журнал «Русский глобус», июль 2014, № 7.

21. Булгаков, М. Избранные произведения : в 2 т. Т. 2. – Минск, 1990. – 543 с.

22. Казько, В. Дзікае паляванне ліхалецця, Мінск, 2009. – 360 с.

23. Монтанари, М. Голод и изобилие: История питания в Европе (Становление Европы). – Спб., 2009.

24. Быкаў, В. Пункціры жыцця: Далітаратурная біяграфія // Дзеяслоў № 2 (15), 2005.

25. Грицкевич, В. П. С факелом Гиппократа: Из истории белорусской медицины. – Минск, 1987. – 271 с.

26. Быкаў В. У. Сцюжа: Аповесць. – Мінск, 1993. – 176 с.

27. Іван Сяркоў. Аўтабіяграфія // Магістраль 92: літаратурна-мастацкі альманах. – Гомель, 1992.

28. Васючэнка, П., Вырвіч А. Прыгоды аднаго Губашлёпа. Аповеды пра Валентага. – Мінск, 1999. – 64 с.

29. Гашек, Я. Похождения бравого солдата Швейка. – М., 1990. – 736 с.

30. Арабей, Л. Пошукі ісьціны: Абразкі // Дзеяслоў № 25, 2006.

31. Распутин, В. Повести и рассказы. – М.: Современник, 1984. – 736 с.

32. Бядуля, Зм. Збор твораў : 5 т. Т. 2. – Мінск, 1986. – 351 с.

33. Гілевіч, Н. Выбраныя творы : у 2 т. Т. 2. Родныя дзеці: Раман у вершах. Перажыўшы вайну: аповесць. Эсэ. – Мінск: Маст. літ., 1991. – 471 с.

34. Чарняўскі, М. Пад знакам Васілька, альбо Пра тое, што не забываецца // З росных сцяжын: аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. – Мінск, 2009. – 464 с.

35. Казлоў, А. Не люблю грыбоў і ягад // З росных сцяжын: аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. – Мінск, 2009. – 464 с.

36. Федарэнка, А. З кошыкам, або Гісторыя ненапісанай аповесці // Дзеяслоў № 1 (14) (студзень–люты), 2005.

37. Гарэцкі, М. Збор твораў : у 4 т. Т. 4. – Мінск, 1986. – 384 с.

38. Зянон. Андрэй // Беларус: літаратурны альманах беларускіх пісьменнікаў замежжа. – Нью Ёрк, 2015. – С. 68–102.

39. Стральцоў, М. Выбранае: Проза, паэзія, эсэ. – Мінск, 1987. – 607 с.

40. Чыгрынаў, І. Выбраныя творы : у 3 т. Т. 1. – Мінск, 1984. – 366 с.

41. Федарэнка, А. Смута: Аповесці, апавяданні. – Мінск, 1994. – 224 с.

42. Сяркоў, І. Мы – хлопцы жывучыя. Аповесці. – Мінск, 1971. – 200 с.

43. Колас, Я. Збор твораў : у 14 т. Т. 4. – Мінск,1973. – 352 с.

44. Някляеў, У. Цэнтр Еўропы. – Мінск, 2009. – 449 с.

45. Савёнак, Лявон. Творы. – Мінск, 2012. – 352 с.

46. Шамякина, Татьяна. Как жила элита при социализме // Нёман № 9, 2013. – С. 144–182.

47. Ажэшка, Э. Выбраныя творы. – Мінск, 2000. – 512 с.
48. Маўр, Я. Палескія рабінзоны. – Мінск, 1967. – 208 с.
49. Мрый, А. Творы: Раман, апавяданні нататкі. – Мінск, 1993. – 317 с.
50. Чорны, К. Збор твораў : у 8 т. Том 6. – Мінск, 1974. – 320 с.
51. Ницше, Ф. Воля к власти; Посмертные афоризмы: Сборник. – Минск, 1997. – 464 с.
52. Баршчэўскі, Ян. Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях. – Варшава, 2012. – 600 с.
53. Солженицын, Александр. Архипелаг ГУЛАГ: опыт художественного исследования. Главы из книги // Новый мир № 8, 1989.
54. Маўр, Я. У краіне райскай птушкі: Аповесці. – Мінск, 1983. – 208 с.
55. Гарэцкі, М. Творы. Дзве душы: Аповесць. Апавяданні. Жартаўлівы Пісарэвіч: П’еса. Літаратурная крытыка і публіцыстыка. Лісты. – Мінск, 1990. – 629 с.
56. Глёбус, А. Толькі не гавары маёй маме. Зборнік інтымнае прозы. – Менск, 1995. – 308 с.
57. Диккенс, Чарльз. Приключения Оливера Твиста: Роман. – Минск, 1980. – 366 с.
58. Ажэшка, Э. Выбраныя творы. – Мінск, 2000. – 372 с.
59. Багушэвіч, Ф. Творы: Вершы, паэма, апавяданні, артыкулы, лісты. – Мінск, 1991. – 309 с.
60. Лынькоў, М. У. Міколка-паравоз. Аповесць і апавяданні. – Мінск, 1990. – 334 с.
61. Федарэнка, А. Нічые: аповесці, апавяданні. – Мінск, 2009. – 430 с.
62. Варлам, Шаламов: проза, стихи. Последний бой майора Пугачева // Новый мир № 6 (1988).
63. Казлоў, А. Р. З дазволу караля і вялікага князя. – Мінск, 1992. – 112 с.
64. Римская сатира. – М., 1989. – 543 с.
65. Толстой, Л. Н. Собрание сочинений : в 22 т. М., 1984. Т. 17. – С. 183.
66. Цветаева, М. Сочинения : в 2 т. Т. 1. Стихотворения. Поэмы. – Минск, 1988. – 542 с.
67. Тостой, Л. Н. Полн. собр. соч. : в 90 т., юбил. изд. – М; Л., 1928–1958. Т. 51. – С. 530.
68. Міцкевіч, А. Пан Тадэвуш, або Апошні наезд у Літве: Шляхецкая гісторыя 1811–12 гг. : у 12 кн., вершы. – Мінск, 1985. – 395 с.
69. Дунін-Марцінкевіч, В. Творы. – Мінск, 1984. – 527 с.

70. Мнение об отвращении в Белоруссии голода // Сочинения Державина : в 9 т. / с объясн. примеч. [и предисл.] Я. Грота. – СПб.: изд. Имп. Акад. наук: в тип. Имп. Акад. наук, 1864–1883. Т. 7: Сочинения в прозе. – 1872. – 231 с.

71. Похлебкин, В. Национальные кухни наших народов. – Режим доступа: http://www.e-reading.club/book.php?book=46184

72. Мишель, Монтень. Опыты. Избранные произведения : в 3 т. Т. 1. – М., 2000. – 384 с.

73. Мальдзіс, А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя: Нарысы быту і звычаяў. – Мінск, Маст. літ., 1982. – 256 с.

74. Патоцкі, Л. Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану. – Мінск, 1997. – 270 с. (Літаратурныя помнікі Беларусі).

75. Булгарын, Ф. Выбранае. – Мінск, 2003. – 592 с.

76. Мележ, І. Людзі на балоце. Раман. – Мінск, 1968. – 512 с.

77. Гарэцкі, М. Збор твораў : у 4 т. Т. 4. – Мінск, 1986. – 384 с.

78. Энеіда навыварат; Тарас на Парнасе. – Мінск, 1982. – 62 с.

79. Живописная Россия. Отечество наше в его зем., ист., плем., эконом. и быт. значении. Литов. и белорусское Полесье. Репринтное воспроизведение издания 1882 года. – Минск, 1993. – 550 с.

80. Геродот. История : в 9 кн. – Л., 1972. – 599 с.

81. Быкаў, В. Пахаджане. Прыпавесьці. – “Наша Ніва”( Бібліятэка “Вострая Брама”). – 1999–2000. – 192 с.

82. Толстой, Л. Н. Собрание сочинений : в 22 т. Т. 22. Дневники. 1895–1910 / сост. и коммент. А. И. Шифмана. – М., Худож. лит., 1985.

83. Косіч, Марыя. На перасяленне // Заняпад і адраджэнне: Бел літ. XIX ст. – Мінск, 2001. – 606 с.

84. Лучына, Я. Творы: Вершы, нарысы, пераклады, лісты. – Мінск, 1988. – 214 с.

85. Марцінкевіч, Г. Адвячорак // Заняпад і адраджэнне: Бел літ. XIX ст. – Мінск, 2001. – 606 с.

86. Гніламёдаў, У. В. Уліс з Прускі: раман. Мінск. – 2006. – 382 с.

87. Мариенгоф, А. Циники. – Берлин, 1928 . – 69 с.

88. Аверченко, А. Тэффи. Юмористические рассказы. – Минск, 1990. – 509 с.

89. Никифоровский, Н. Я. Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности // Этнографические данные. Витебск, 1895. – VIII+548+CLIV .

90. gapeev.info/category/vedzmina tonya

91. Шамякін, І. Бацькі і дзеці. Выбранае. – Мінск, 1971. – 480 с .

92. Казько, В. Пра сябе і трохі болей // Дзеяслоў. № 2 (45) / сакавік–красавік / 2010. – С. 264–287.

93. Шаламов, В. Т. Собрание сочинений : в 4 т. Т. 2. – М.: Художественная литература, Вагриус, 1998. – С. 405–414.

94. Някляеў, У. Знакі прыпынку // Дзеяслоў. № 5 (60) // верасень–кастрычнік /2012.

95. Разанаў, А. Каб мелі шчасце ўваскрасаць і лётаць: Паэма / Алесь Разанаў. – Мінск, 2006. – 168 с.

96. Чачот, Я. Наваградскі замак: Творы. – Мінск, 1989. – 327 с.

97. К. Маркс, Ф. Энгельс. Сочинения, изд. 2-е. Т. 19. – С. 39–54.

98. Лецка, Яўген. Гэты нязводны народны дух. Невядомая народная паэма. // Дзеяслоў № 5 (30) / верасень–кастрычнік / 2007.

99. Карпюк, А. Выбраныя творы. – Мінск, 2007. – 600 с.

100. Гарун А. Сэрцам пачуты звон. – Мінск, 1991. – 352 с.

101. Вядзьмак, Лысагорскі. Сказ пра Лысую Гару. – Мінск, 1988. – 48 с.

102. Кулон, А. Сіняя кніга беларускага алкаголіка /Антон Кулон. – Мінск, 2012. – 304 с.

103 Быкаў, В. Сьцяна. – Мінск, 1997. – 384 с.

104. Глобус. Тэксты. – М., 2000. – 1088 с.

105. Караткевіч, У. Збор твораў: у 8 т. Т. 6. Хрыстос прызямліўся ў Гародні: Раман. – Мінск, 1990. – 494 с.

106. Супручук, В. Магнітны чалавек // Дзеяслоў № 5 (верасень–кастрычнік), 2012.

107. Баляслаў, Лесьмян. Пан Блішчынскі: вершы. – Мінск: 1994. – 93 с.

108. Апулей. Метармарфозы, ці Залаты асёл: Раман. – 1991. – 284 с.

109. Асташонак, А. М. Жоўты колер белага снегу. Камерная проза / Алесь Асташонак. – Мінск, 2006. – 303 с.

110. У кн. Саверчанка І. В. Старажытная паэзія Беларусам: XVI – першая палова XVII ст. – Мінск, 1992. – 254 с.

111. Эрнестъ Ренанъ. Жизнь Иисуса. Апостолы. – М.,1991. – 608 с.

112. Адамчык, В. Выбраныя творы : у 3 т. Т. 1. М., 1995. – 479 с.

113. Сіман, Кацярына. Чытаць… смачна! – ЛіМ № 15 ад 11 красавіка 2014.

# Змест

Навуковае выданне

**Штэйнер** Іван Фёдаравіч

# Валадар над усім: канцэпт голаду ў беларускай і сусветнай літаратуры

*У аўтарскай рэдакцыі*

Падпісана да друку 06.09.2016. Фармат 60x84 1/8.
Папера афсетная. Рызаграфія. Умоўн. друк. арк. 7,4.
Улік.-выд. арк. 8,1. Тыраж 100 экз. Заказ 491.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
установа адукацыі
“Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны”.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вырабніка,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/87 ад 18.11.2013.
Спецыяльны дазвол (ліцэнзія) № 02330 / 450 ад 18.12.2013.
Вул. Савецкая, 104, 246019, Гомель.